№ 20 (953) 25 мая 2016 www.nn.by
НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА
Наша Ніва
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## У мінскай гімназіі №74 старшакласнік з нажом напаў на настаўніцу, перарэзаў горла

Старонка 2.

## Новы этап

Падпішыся на штомесячнік «Наша Ніва»: добрая аналітыка, рэпартажы, гутаркі, гісторыя і літаратура. Старонка 2.

# Мядзведзік Топа — беларуская «Тэлевяршыня»



Гэта ўсё, што трэба ведаць пра **беларускае тэлебачанне**?

У Палацы Рэспублікі прайшла цырымонія ўручэння ўзнагарод конкурсу «Тэлевяршыня-2016». Прыз глядацкіх сімпатый на ёй атрымаў Уладзімір Варанкоў — акцёр, які агучвае мядзведзіка Топу ў культавай «Калыханцы». Галасаванне за пераможцу адбывалася на сайце тэлекампаніі СТБ, у ім узяло ўдзел больш за 15 тысяч чалавек, 38% якіх падтрымалі Топу.

**Сацсеткі за Топу**

Міністр інфармацыі Лілія Ананіч падчас урачыстага ўзнагароджвання пахваліла арганізатараў: маўляў, які ўдалы піяркрок — уключыць у спіс намінантаў мядзведзіка!

Алезаслуга арганізатараў — ілюзія. Вялікая лічба ўдзельнікаў галасавання тлумачыцца «мабілізацыяй» сацыяльных сетак. Даведаўшыся пра конкурс, сотні інтэрнаўтаў заклікалі адзін аднаго падтрымаць Топу — як сімвал сумленнасці і беларускасці на тэлебачанні.

Між тым за Дзяніса Кур'яна прагаласавалі 260 чалавек, за Святлану Бароўскую — 200 чалавек, за Ягора Хрусталёва — 115 чалавек.

Працяг на старонцы 4.

**«Калыханка»: 35 гадоў у эфіры**

Дзіцячая праграма з'явілася на БТ у 1981 годзе. Апошнімі гадамі яе перакідвалі з канала на канал і цяпер паказваюць увечары па буднях на маларэйтынгавым «Беларусь-3». Што ідзе ў гэты час на іншых каналах Белтэлерадыёкампаніі ў сераду, 25 мая? Фільмы «Грачанка», «Не нарадзіся прыгожай» і матч чэмпіянату Беларусі па футболе.

Вядучыя «Калыханкі» — Маляваныч і Фея сноў разам з лялькамі медзведзянём Топам і лісічкаю Яняй, а таксама казачнай істотай Сплюшыкам. Нядаўна ў праграме з'явіўся новы лялечны персанаж — яноцік Цёма.

Гімн «Калыханкі» — песня на вершы Генадзя Бураўкіна і музыку Васіля Раінчыка. «Пакрысе, на расе...» — гэтыя словы ведаюць усе дзеці краіны. У 2008 годзе яе былі замянілі на іншую ў выкананні Ірыны Дарафеевай, але праз год па просьбах гледачоў вярнулі назад.

## Сяргей Навумчык прыляцеў у Беларусь пасля 20 гадоў палітычнай эміграцыі

Сваю паездку ён пачаў з наведвання магілы Быкава, а далей **пабывае ў сваіх бацькоў**.

Сяргей Навумчык і Зянон Пазняк пакінулі Беларусь у 1996 годзе, калі ім пагражаў пераслед за беспарадкі падчас масавага шэсця «Чарнобыльскі шлях». Яны атрымалі палітычны прытулак у ЗША. Навумчык знайшоў працу на радыё «Свабода», якое фінансуецца Кангрэсам ЗША.

«Гэты быў вымушаны крок, — сказаў Навумчык у Мінску. — Даўшы тады палітычны прытулак Пазняку і мне, ЗША фактычна далі адназначную ацэнку курсу, на які павярнуў рэжым у Беларусі», — цытуе яго радыё «Свабода».

24 мая, проста з аэрапорта Навумчык з букетам ружаў накіраваўся на Усходнія могілкі Мінска, дзе пахаваны Васіль Быкаў.

«За гэтыя 20 гадоў не было ні дня, калі б я не думаў пра вяртанне ў Беларусь, — сказаў Навумчык. — На магілу Быкава прыехаў, бо ён шмат значыў у маім лёсе».

«Тут пахаваны і мой аднакурснік, калега Ігар Гермянчук, таксама Генадзь Карпенка, Генадзь Бураўкін», — кажа Навумчык.

У Мінск Навумчык прыляцеў разам з жонкай і дачкой на некалькі дзён. Пра свой прыезд Навумчык не абвяшчаў загадзя. «Для блізкіх гэта не было сакрэтам, але рабіць публічны розгалас не бачыў патрэбы. Паездка выкліканая прыватнымі прычынамі. Мае бацькі ў пажылым узросце, у іх не самае лепшае здароўе, ім ужо цяжэй прыязджаць у Прагу.

Працяг на старонцы 4.

## Прыпіскі?

Памочнік **Тацяны Караткевіч** вінаваціць яе ў фальсіфікацыі 40 тысяч подпісаў на прэзідэнцкіх выбарах. Старонка 3.

## Вучыўся платна, падпрацоўваў паркоўшчыкам

А прызнанне ў свеце **Сяргей Лескець** здабыў серыяй здымкаў жыхароў беларускіх аграгарадкоў. Старонка 7.

## Стагоддзе жанчын

Гісторыя Беларусі. Частка XXXVII. Піша **Алег Дзярновіч**. Старонка 14.

# У мінскай гімназіі №74 старшакласнік напаў на настаўніцу, перарэзаў горла


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Шакуючы выпадак здарыўся ў мінскай гімназіі №74 у панядзелак, 23 мая. Што канкрэтна адбылося ў кабінеце рускай мовы, пакуль невядома, разбіраюцца следчыя. Школьнікі пусцілі чуткі, што ў нападзе на настаўніцу ўдзельнічала чацвёра вучняў: нібыта адзін рэзаў жанчыну, а іншыя ў гэты час трымалі дзверы. Але Следчы камітэт гэтую інфармацыю рашуча абверг.

Дакладна можна сказаць толькі тое, што адзін з вучняў 9 класа чымсьці вострым ударыў некалькі разоў настаўніцу ў шыю.

Адразу пасля гэтага школа перайшла ў рэжым надзвычайнай сітуацыі. Званок аб сканчэнні ўрока так і не далі, абсалютна ўсіх вучняў не выпускалі з класаў. Педагога забралі на хуткай, падазраванага адвезлі ў міліцыю.

У аўторак следчыя шукалі «востры прадмет», якім была нанесеная рана.

57-гадовая настаўніца Валянціна Губарэвіч выжыла. З множнымі колата-рэзанымі траўмамі шыі, галавы, верхніх канцавін яе даставілі ў рэанімацыйнае аддзяленне 10-й бальніцы. Стан жанчыны ацэньваецца як стабільна цяжкі. У аўторак, 24 мая, яна апрытомнела.

Па інфармацыі следчых, у той панядзелак ужо праз паўгадзіны пасля пачатку заняткаў настаўніца сама пазваніла дачцэ і паведаміла, што адзін са старшакласнікаў нанёс ёй удар вострым прадметам.

«У кабінеце педагог і вучань знаходзіліся ўдваіх — гэта вызначаны факт», — адзначыў Сяргей Кабаковіч, кіраўнік прэс-службы Следчага камітэта.

Таксама ён не пацвердзіў чуткі пра настаўніка працы, які ламаў дзверы сякерай.

Сяргей Кабаковіч паведаміў, што па факце замаху на забойства распачата крымінальная справа. Хлопец затрыманы. Цяпер з ім працуюць следчыя. Вядома, што падлетак з нармальнай сям'і, вучыўся добра і ні на якіх уліках не знаходзіўся.

Таксама дапытваюцца работнікі і навучэнцы адукацыйнай установы.

Калі медыкі дадуць дазвол, то ў найбліжэйшы час будзе дапытана і пацярпелая настаўніца.

### Што кажуць у гімназіі

У гімназіі гаварыць пра здарэнне не хочуць, раяць звяртацца з пытаннямі да следчых. У будынак нікога не пускаюць. Дзеці запалоханыя, ім рэкамендавалі маўчаць. Але, вядома, не ўсе гэты загад выконваюць.

Так, адзін пяцікласнік каля гімназіі расказаў карэспандэнтам «Нашай Нівы», што ў той дзень ён акурат падымаўся на трэці паверх, як па калідоры пранеслася нейкая настаўніца і, прыхапіўшы яго з сабой, замкнулася ў кабінеце са сваім класам.

«Я тады падумаў, што нашу школу захапілі тэрарысты. Усё як у кіно было», — сказаў нам хлопчык.

Маўляў, настаўніца сказала ўсім ціха сядзець, маўчаць. І толькі праз нейкі час іх выпусцілі. Тады дзеці з размоваў дарослых і даведаліся, што нейкі «старшак» накінуўся на настаўніцу рускай мовы.

Меркаванні вучняў пра траўмаваную настаўніцу вельмі розняцца. Выпускнікі мінулага года, у якіх педагог была класным кіраўніком, называюць яе патрабавальнай і кваліфікаванай. Некаторыя называюць яе строгай.

Пацярпелая — настаўніца вышэйшай катэгорыі, вядзе платны гурток «Падрыхтоўка да ЦТ па рускай мове» і факультатыў «Практычная стылістыка рускай мовы».

«Але яна настаўніца як настаўніца, — ахарактарызаваў Валянціну Уладзіміраўну мужчына, што прыйшоў забіраць свайго сына. — У майго малога вядзе. Ну і што? І васьмёркі прыносіў, і шасцёркі. Гэта ўжо як вывучыць. Ва ўсіх нас строгія выкладчыкі былі, але што, рэзаць іх за гэта?»

Мужчына выказаў здагадку, што ашалелы дзевяцікласнік загаддзя ўсё спланаваў.

«Ну самі падумайце. Гэта ж не пасля абеду адбылося, а раніцай! У панядзелак! Адпаведна, гэты хлопец усё спланаваў і прадумаў, я так мяркую», — сказаў мужчына.

Іншыя дарослыя, якія прыйшлі забіраць сваіх дзяцей, таксама вінавацяць у здарэнні хлопца, а не настаўніцу.

Але гімназія ўсё адно поўніцца самымі неймавернымі чуткамі.

Іншыя ж хорам расказалі, што інфармацыя некаторых СМІ, што настаўнік працы выламваў дзверы сякерай — трызненне, бо ў той дзень «працавіка» ўвогуле не было на рабоце.

**Улад Швядовіч, Арцём Гарбацэвіч**

# У Вільні павесілі мемарыяльную шыльду ў гонар Казіміра Сваяка

На адзін беларускі знак паболела ў Вільні. 22 мая Таварыства беларускай культуры ў Літве павесіла мемарыяльную шыльду ў гонар святара і паэта Казіміра Сваяка.

Скульптар — Ігар Засімовіч, мецэнат — Мікіта Забуга, арганізатар і аўтар ідэі — Алесь Юркойць.

Шыльда заняла месца на будынку дома па адрасе Вялікая, 17 (Didžioji g. 17).

Урачыстае адкрыццё мемарыяльнай шыльды адбудзецца ў Вільні 19 чэрвеня а 12-й з набажэнства ў касцёле Св.Барталамея з удзелам духавенства з Літвы і Беларусі. Потым, пасля літургіі, грамада накіруецца да шыльды. Віленчукі мараць, каб у цырымоніі змаглі ўзяць удзел усе ініцыятары справы.



## Сцісла

**Сярэдні заробак паменшаў на 8500 рублёў, але вырас на $12**

Паводле падлікаў Белстата, сярэдні заробак «брудным» ў красавіку склаў 7 мільёнаў 85 тысяч рублёў. Па тагачасным курсе гэта $356. За кошт умацавання беларускага рубля заробак у далярах вырас.

**«Вэлком» збірае старыя мабільнікі і планшэты**

Аператар сувязі ўсталюе ў сваіх цэнтрах абслугоўвання кантэйнеры па зборы старых выкарыстаных тэлефонаў і планшэтаў. Кожны зможа здаць адпрацаванае абсталяванне і тым самым зробіць свой унёсак у ахову навакольнага асяроддзя. Грошы за гэта ніхто нікому плаціць не будзе.

**Фэйсбук адмовіў беларускім сілавікам**

У 2015 годзе адміністрацыя *Facebook* атрымала адзін запыт ад беларускіх уладаў аб перадачы інфармацыі пра карыстальніка сацыяльнай сеткі, гаворыцца ў справаздачы кампаніі. Па гэтым запыце *Facebook* звестак не падаў.

**Іпэшніца прапаноўвала міліцыянтам грошы за інфармацыю аб памерлых**

Прадпрымальніца з Гомеля, якая займалася рытуальнымі паслугамі, прапаноўвала маладым міліцыянтам па 600 тысяч рублёў за інфармацыю пра памерлага. Затрымалі і яе, і яе мужа, ім пагражае 4—5 гадоў зняволення.

**Аштрафавалі Шушкевіча**

Першага кіраўніка незалежнай Беларусі Станіслава Шушкевіча аштрафавалі за ўдзел ва ўстаноўчым сходзе Беларускага нацыянальнага кангрэсу. Пенсіянеру налічылі штраф памерам 6,3 млн. рублёў. Такое рашэнне вынесла суддзя суда Цэнтральнага раёна Мінска Вікторыя Шабуня. У якасці сведкі выступіў інспектар міліцыі Дзмітрый Шантар.

**УШ, БЮ**

## Апытанне на nn.by

**Кава ці чай?**

| | | |
|---|---|---|
| Кава | 738 | 44% |
| Чай | 947 | 56% |

Прагаласавала 1685 чалавек

## Самае чытанае на nn.by за 18 — 24 мая

1 У мінскай гімназіі №74 старшакласнік з нажом напаў на русіцу, перарэзаў горла

2 У цэнтры Мінска адкрылася вулічная выстава з вялікімі фотаздымкамі жанчын у нацыянальных строях на будынках

3 У акцёра і вядучага Юрыя Жыгамонта інфаркт

4 Дзе ў Беларусі большасць насельніцтва складаюць палякі, а дзе жывуць рускія і ўкраінцы — цікавыя лічбы

5 Сярод пераможцаў «Тэлевяршыні» Бачкоў, Думбадзэ і Ханунік-Рамбальская

6 Рагнеду сыграе актрыса, якая здымалася ў расійскіх фільмах аголенай

7 Ва Украіне перайменавалі Днепрапятроўск

8 «Беларусы ад нас нічым не адрозніваюцца» — расіяне пра адпачынак у Мінску

9 Узлёт і падзенне свядомых змагароў, або Як тэатралізаваны радыкалізм Пазняка нашкодзіў нацыянальнаму руху

10 «Мы гэтага не казалі!» — французы зняважылі «Расію-24» на абсалютнай хлусні

# Паплечнік Таццяны Караткевіч вінаваціць Дзмітрыева ў фальсіфікацыі 40 тысяч подпісаў на выбарах

Былы актывіст «Гавары праўду» Яраслаў Берніковіч на сваёй старонцы ў фэйсбуку агучыў лічбы: за кандыдатку ў прэзідэнты Таццяну Караткевіч у Мінску было сабрана ўсяго 14 тысяч подпісаў.

У ЦВК ж было нібыта здадзена 55 тысяч подпісаў, якія былі прызнаныя сапраўднымі. Мы патэлефанавалі ў Глыбокае Яраславу Берніковічу, які ў 2015 каардынаваў збор подпісаў за Караткевіч у Мінску.

**«Наша Ніва»: Чаму вы сёння агучылі гэтыя лічбы?**

**Яраслаў Берніковіч:** Некалі было патрэбна, каб гэтыя лічбы нехта агучыў. Чым гэты дзень горшы за ўчарашні ці месячнай даўніны? На мяне паўздзейнічала, што ў апазіцыі па-ранейшаму няма ніякага аб'яднання і нават жадання яднацца. Я разумею, што падчас парламенцкіх выбараў будзе 300 кандыдатаў, па 5 кандыдатаў на акругу. Хтосьці з іх збярэ патрэбныя подпісы, хтосьці не збярэ, кагосьці не зарэгіструюць з сабранымі, кагосьці зарэгіструюць без сабраных подпісаў... Няма сэнсу ў зборы подпісаў, калі такое будзе працягвацца далей.

Я хачу, каб болей такога не адбылося. 2010 год прайшоў, і ўсе замаўчалі, бо ва ўсіх былі пысы ў пушку. Можа, хіба ў Някляева былі сабраныя ў сапраўднасці. Ды цяпер усё роўна, ці ты сабраў, ці не сабраў подпісы. Улада выбірае сабе апанента, і з гэтым трэба пакончыць, з такой заганнай практыкай.

**«НН»: Дык колькі тады ў рэальнасці сабралі за Таццяну Караткевіч?**

**ЯБ:** Я магу сказаць дакладную лічбу па Мінску. Сабрана 14 603 подпісы, здадзена ж прыкладна 55 тысяч (54 812 — **«НН»**).

**«НН»: Хто прымаў рашэнне здаваць менавіта 55 тысяч?**

**ЯБ:** Прымалася рашэнне кіраўніком штаба.

**«НН»: Андрэем Дзмітрыевым?**

**ЯБ:** Так.

**«НН»: Подпісы збіраць было цяжка?**

**ЯБ:** Вельмі. Па-першае, было мала людзей. Нібыта была вялікая ініцыятыўная група, але ў ёй багата «мёртвых душаў», гэта значыць, чыесьці знаёмыя, знаёмыя знаёмых... Семсот чалавек былі запісаныя ў ініцыятыўную групу з тых, хто даваў свае подпісы за «Народны рэферэндум». Натуральна, што з іх ніхто не збіраў подпісаў.

Валанцёры збіралі подпісы ў вельмі кепскіх умовах, калі тэмпература за +30. Яны рабілі тое, што маглі зрабіць. Збіралі пасапраўднаму.

**«НН»: Як рэагавалі ў штабе Таццяны Караткевіч на прапанову праверыць сапраўднасць подпісаў?**

**ЯБ:** Я выконваў дастаткова абмежаваныя функцыі, таму не ўсё ведаю. Магу сказаць, што праверыць жа было што. З сабраных 14 тысяч можна было нешта даць. Бярыце — правярайце. Іх правяралі, але не лічылі. Я памятаю, што была дзяўчынка з «Белсата», якая тэлефанавала па нумарах з аркушаў. Ёй пацвярджалі, што так, давалі подпісы за Караткевіч.

**«НН»: Таксама вы кажаце, што абавязковым было хадзіць па адрасах, дзе жывуць журналісты і палітычныя дзеячы? Была такая ўстаноўка?**

**ЯБ:** Так, была ўстаноўка. Пажадана было сабраць подпіс кожнага журналіста, а таксама іх суседзяў. Калі персанальна ў вас не было ўлёткі Караткевіч, то гэта недапрацоўка штаба.

**«НН»: Ці праўда, што вы сышлі з «Гавары праўду»?**

**ЯБ:** Сышоў.

**«НН»: З чым гэта звязана?**

**ЯБ:** З рознагалоссямі з кіраўніком... з Дзмітрыевым. Па самых розных пытаннях.

**«НН»: Цяперашнія заявы — гэта не спроба помсты?**

**ЯБ:** Я разумею, што многія будуць усчыняць гвалт, абвінавачваць мяне. На здароўе, няхай так думаюць. Зроблена — і зроблена.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**




Яраслаў Берніковіч і Таццяна Караткевіч правялі выбарчую кампанію разам.

## Таццяна Караткевіч: «Наколькі я разумею, ён быў пакрыўджаны»

Лідарка кампаніі «Гавары праўду», экс-кандыдатка на пасаду прэзідэнта Таццяна Караткевіч пракаментавала для «НН» словы колішняга каардынатара яе кампаніі, што ў Мінску было сабрана толькі 14 тысяч подпісаў. Караткевіч лічыць такія абвінавачванні недарэчнымі.

«Я сёння, як і большасць карыстальнікаў фэйсбука, упершыню пабачыла такія заявы і лічбы. Гэта прыклад звычайных апазіцыйных дзеянняў, якія ўносяць яшчэ большы разлад у дэмакратычную супольнасць.

Яраслаў Берніковіч пасля Новага года сышоў з «Гавары праўду». Наколькі я разумею, ён быў пакрыўджаны, незадаволены. Сёння мы бачым, што ён далучыўся да іншай кампаніі, да іншай структуры, якая з'яўляецца нашым канкурэнтам. Мы бачылі, што Яраслаў быў адным з арганізатараў кангрэсу, што праходзіў у скверы Янкі Купалы.

Я так думаю, што гэта кампанія нагадала Берніковічу, як трэба дзейнічаць, як трэба канкураваць.

Надалей наша тактыка і стратэгія простая: мы кажам і сваім актывістам, і тым, хто пытаецца, што мы не ўступаем ва ўнутрыапазіцыйныя разборкі. На такія рэчы мы не рэагуем, не каментуем, і разбірацца ў іх няма сэнсу.

Я ніколі не бачыла такой лічбы — 14603 подпісы. Мы разам з Яраславам Берніковічам падавалі подпісы. І я бачыла зусім іншыя лічбы».

**Запісаў Зміцер Панкавец**

# Лукашэнка запрасіў Папу ў Беларусь

Аляксандр Лукашэнка і папа Францішак падчас сустрэчы ў Апостальскім палацы ў Ватыкане абмеркавалі развіццё адносін Беларусі з Рымска-каталіцкай царквой.

Сустрэча Аляксандра Лукашэнкі і папы Францішка працягвалася каля 40 хвілін, з іх 25 хвілін кіраўнік Беларусі і пантыфік размаўлялі ў фармаце «сам-насам».

Сустрэча праходзіла ў вельмі цёплай і сяброўскай атмасферы. Ужо ў прысутнасці членаў афіцыйнай дэлегацыі бакі абмяняліся падарункамі.

Кіраўнік беларускай дзяржавы паднёс у падарунак пантыфіку копію Крыжа Еўфрасінні Полацкай, выкананую з дапамогай унікальнай тэхнікі разьбы па дрэве, мадэль карэты, зробленую паводле гэтай жа тэхналогіі, а таксама галаграфічную ікону. Як адзначыў прэзідэнт, гэты абраз злучае ў сабе гісторыю і сучаснасць.

Папа Францішак, у сваю чаргу, падарыў прэзідэнту Беларусі тры напісаныя ім дакументы аб Евангеліі, ахове прыроды і сям'і.



Аляксандр Лукашэнка паабяцаў азнаёміцца з іх зместам і перадаць іх на захоўванне ў Прэзідэнцкую бібліятэку. Яшчэ адзін падарунак пантыфіка — мастацкае адлюстраванне аліўкавага дрэва, якое з'яўляецца сімвалам міру. У гэтым плане Папа асабліва падкрэсліў тую мірную місію, якую ўзяла на сябе Беларусь. «Мінск можа быць месцам міру», — сказаў ён.

У завяршэнні сустрэчы прэзідэнт Беларусі і пантыфік цёпла развіталіся. Аляксандр Лукашэнка прапанаваў папе Францішку наведаць выставу беларускіх абразоў, якая нядаўна адкрылася ў музеях Ватыкана.

Ён таксама запрасіў пантыфіка здзейсніць візіт у Беларусь. «Прыязджайце да нас. Вы атрымаеце столькі сіл і здароўя, як ні ў адным кутку свету», — сказаў ён.

Пасля аўдыенцыі ў Папы адбылася таксама сустрэча Аляксандра Лукашэнкі з дзяржаўным сакратаром Ватыкана П'етра Параліна.

**БелТА**

**Ці хочаце вы, каб у Беларусі адбылася сустрэча Папы і Патрыярха Маскоўскага?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 478 | 36% |
| Не | 514 | 39% |
| Мне ўсё адно | 350 | 24% |

Усяго прагаласавалі 1342 разоў.

## «Мы гэтага не казалі!» — французы зллавілі «Расію-24» на абсалютнай хлусні

Французскія журналісты перавялі на родную мову сюжэт «аб еўраскептыках» з праграмы Дзмітрыя Кісялёва.

Папулярная перадача *Le Petit Journal* французскага тэлеканала Canal+, якая перакazвае ў стылі сатырычнага інфатэйтменту навіны дня, распавяла, як перадаюць навіны з Францыі расійскія тэлеканалы і, у прыватнасці, канал «Россия-24». Журналісты прааналізавалі структуру выпуску праграмы «Вести недели» Дзмітрыя Кісялёва ад 15 мая, а затым сустрэліся з людзьмі, якіх інтэрв'юіруюць работнікі расійскага ТБ.

На сайце «России-24» сюжэт праграмы «Вести недели» пра сітуацыю ў Францыі пачынаецца на 52-й хвіліне і займае каля 10 хвілін.

Галоўная тэма заяўлена як «рост руху еўраскептыкаў у Францыі».

Працяг на старонцы 15.

# Мядзведзік Топа — беларуская «Тэлевяршыня»

Працяг са старонкі 1.

Гэта і ёсць сапраўдны ўзровень папулярнасці беларускага тэлебачання — безыдэйнага і бесканфліктнага.

Калі б не Топа, прыз глядацкіх сімпатый атрымалі б Вольга Бурлакова і Аляксандр Мяжэнны з СТБ. Лічыльнік іх папулярнасці неймаверным чынам дакруціўся да 30% галасоў: вы верыце ў такую народную любоў? А ўвогуле, вы ведаеце, хто гэта такія?

### Прыз за палітычна выверанае асвятленне выбараў

За Топу прагаласавалі гледачы (5800 галасоў!), а вось каму аддало перамогу журы.

Гран-пры «Тэлевяршыні» — прапагандысцкі праект «Беларусь XXI». Гэтая праграма транслявалася перад выбарамі ў надзвычай шматлікіх выпусках навінаў і была прысвечана пазітыўным наступствам кіравання Аляксандра Лукашэнкі. «21» у назве — гэта не толькі нумар стагоддзя, але і працягласць прэзідэнцтва.

Прапагандысцкія праграмы, прысвечаныя выбарам, мелі відавочную перавагу пры вызначэнні пераможцаў.

Напрыклад, Тэнгіз Думбадзэ з АНТ быў названы найлепшым вядучым грамадска-палітычнай праграмы. Яму аддзячылі за цыкл «Рэвалюцыі XXI стагоддзя». Сваю статуэтку атрымалі і сцэнарысты праекта.

«Дакументальны серыял АНТ расказвае пра бедствы, якія народам прынеслі і працягваюць прыносіць так званыя каляровыя рэвалюцыя, пра ўплыў краін Захаду на ўнутрыпалітычную сітуацыю ў той ці іншай дзяржаве», — гаварылася ў анатацыі. Назвы праграм гавораць самі за сябе: «Грузія. Шыпы і ружы», «Сербія. Да ўлады на бульдозеры», «Арабская дуга. Кіраваны хаос». Прычым гэтыя перадачы ішлі штодня перад прэзідэнцкімі выбарамі.

А праграма «Галоўны эфір. Інфармацыйны канал «Выбары-2015» была названая пераможцам тройчы.

Што да персанальных узнагарод, то іх атрымалі Дзмітрый Бачкоў з Аленай Насачовай («Галоўны эфір») і вядучая навінаў на АНТ Алена Міхалоўская.

З палітыкай не звязаныя Ірына Ханунік-Рамбальская («Вялікі сняданак» на СТБ) і Іван Падрэз, які вёў на АНТ па-беларуску праграму «Легенды.Live» пра гісторыю музыкі.

**Браніслаў Юрэвіч**



«Тэлевяршыня». Кожная такая статуэтка каштуе каля 5 мільёнаў рублёў.

**Што такое «Тэлевяршыня»**

Гэта штогадовы конкурс, які праводзіцца Міністэрствам інфармацыі і найбуйнейшымі тэлеканаламі. Сёлета адбылася 12-я цырымонія.

Журы вызначае лаўрэатаў у 25 намінацыях. Спачатку называюцца тры кандыдаты, а пасля з іх абіраецца пераможца.

Тэлерынак Беларусі фактычна падзелены паміж трыма галоўнымі каналамі — АНТ, СТБ і холдынгам Белтэлерадыёкампаніі. Таму ў большасці намінацый у тройцы прызёраў па адным прадстаўніку ад кожнага канала. Напрыклад, сёлета за званне «найлепшага вядучага грамадска-палітычнай праграмы» змагаліся Дзмітрый Бачкоў з «Беларусь-1», Ягор Хрусталёў ад СТБ і Тэнгіз Думбадзэ ад АНТ. Бачкоў ужо летась быў лаўрэатам у гэтай намінацыі, таму цяпер перамогу аддалі Думбадзэ.



Ірына Ханунік-Рамбальская названа найлепшай вядучай «тэматычнай праграмы».

## Топа: Людзі прагаласавалі супраць дылетанцтва на тэлебачанне

Акцёр **Уладзімір Варанкоў**, які агучвае Топу, расказаў пра сваю перамогу.

**— Топа, чаму менавіта вы перамаглі ў галасаванні, як вы думаеце?**

— Ведаеце, гэта, імаверна, было для эксперыменту. Яны ж нават імя артыста не прапісалі, так і пазначылі — мядзведзік Топа. Відаць, сур'ёзнага значэння не надавалі. А калі пачалося галасаванне, людзі пачалі тэлефанаваць, то яны гаварылі, што галасавалі не столькі за мяне, колькі супраць непрафесіяналізму і дылетанцтва.

**— Вы лічыце, што галасавалі не за вас, а супраць іншых?**

— Тэлебачанне запаланілі людзі, настолькі ад яго далёкія, што іх ніхто не ведае. Топу ведаюць, «Калыханку» ведаюць 35 гадоў. Мы прафесіяналы, нікога ніколі не падманвалі. Таму людзі аддавалі голас за тых, каго ведалі. А не за тыя прозвішчы і людзей, каго ім навязвалі... Нельга ж аддаваць галоўны прыз краіны тым, каго не бачыш і не ведаеш. Паміж сабой можна што хочаш дзяліць. Але калі запусцілі галасаванне для ўсёй краіны, то адразу ўсплыло імя аўтара... Магчыма, яны і не чакалі такога. Думалі, вось на сайце СТБ запусцяць, свае ціхенька прагаласуюць. А тут такі выбух.

**— Цяпер мядзведзік Топа стаў яшчэ больш зорным. Магчыма, ён захоча паспрабаваць сябе ў якасці вядучага і на іншых перадачах?**

— Ну, у нас жа, акрамя «Калыханкі», ёсць іншыя перадачы. 5 гадоў мы ўжо вядзём «Дабрананак». Мы цяпер дзяцей і будзім яшчэ, у школу, у садзік. А вечарам укладваем спаць.

**— А вы самі гледзіце тэлебачанне? Што любіце?**

— Ну вядома! Я люблю глядзець перадачы. І ёсць любімыя. Пачынаючы са спартыўных і заканчваючы «Бітвамі экстрасэнсаў». Глядзець трэба і добрае, і дрэннае. І калі ёсць магчымасць, то стварыць гэтае добрае.

**Алесь Пілецкі, Еўрарадыё**

## Свой адказ расійскай прапагандзе

Апошнім часам шмат размоў вядзецца пра «інфармацыйную бяспеку краіны». Гледачы атрымліваюць шавіністычную інфармацыю ад расійскіх кацярын андрэевых і дзмітрыеў кісялёвых. Якія грамадска-палітычныя праграмы ўласнай вытворчасці цяпер можна ўбачыць у эфіры беларускіх тэлеканалаў?

Важна адзначыць, што ніводная праграма, у якой можа быць пачуты голас звонку — напрыклад, крытычна настроенага эксперта, — не паказваецца ў жывым эфіры.

### «Беларусь-1»

Вечаровыя навіны па-ранейшаму называюцца «Панарама», толькі ў нядзелю замест яе выходзіць «Галоўны эфір». Адразу пасля яго ў эфіры паказваюць «Клуб рэдактараў» з Генадзем Давыдзькам.

Па панядзелках выходзіць ток-шоу «Форум з Дзмітрыем Бачковым». Папярэдні выпуск, напрыклад, быў прысвечаны няпоўным сем'ям.

Па аўторках раз на два тыдні паказваюць «Буйным планам» з Маратам Маркавым — інтэрв'ю з чыноўнікам ці грамадскім дзеячам. З той жа перыядычнасцю па суботах выходзіць фактычна такая самая перадача — «Пункт гледжання» з Вікторыяй Сянкевіч.

Ёсць яшчэ непастаянная праграма «Макей і Лаўроў. Пра палітыку», дзе цёзкі дыпламатаў абмяркоўваюць сусветную палітыку.

### АНТ

Рэйтынгавыя «Контуры» ўвечары нядзелі вядзе расеец Ілля Коласаў. Ягоны фармат — бясконцая лекцыя пра сітуацыю ў краіне.

Сваё ток-шоу — «Справа прынцыпу» з Вадзімам Гігіным. Папярэдні раз гаварылі пра сельскую гаспадарку. У эфір перыядычна запускаюць апазіцыю, але толькі «канструктыўную» і ў запісе.

Каб не адставаць ад старшыні Белтэлерадыёкампаніі Генадзя Давыдзькі, сваю праграму стварыў кіраўнік АНТ Рыгор Кісель. Ягонае «Трэба разабрацца» выходзіць у чацвер, гэта інтэрв'ю з чыноўнікамі.

Перадача «Подых планеты» магла б быць пазнавальнай праграмай пра жыццё ў замежжы, як «Пра-свет» на «Белсаце», але ва ўмелых руках Тэнгіза Думбадзэ схіляецца да выкрывання імперыялізму на савецкі капыл.

### СТБ

Па такім жа прынцыпе, здараецца, працуе праграма «Часткі свету з Алегам Рамашовым».

Апроч таго, на канале ёсць фармат душэўнага інтэрв'ю — «Простыя пытанні» з Ягорам Хрусталёвым.

Той жа Хрусталёў вядзе ток-шоу «Што адбываецца» на «РТР-Беларусь». У апошнім выпуску абмяркоўвалі планы і прагнозы на сёлетнюю Алімпіяду.

**ЯМ**

## Сяргей Навумчык прыляцеў у Беларусь пасля 20 гадоў палітычнай эміграцыі

Працяг са старонкі 1.

Мая дачка, якая нарадзілася ў Амерыцы, увогуле першы раз прыехала ў Беларусь, хоць у яе беларускае грамадзянства. Яна ніколі не бачыла сваіх дзеда і бабку па лініі маці. Таму, калі бацькі выказалі жаданне нас пабачыць, мы не маглі не пайсці ім насустрач», — распавёў ён.

Паводле слоў Навумчыка, прыехаць ён змог, бо сітуацыя з яго бяспекай змянілася.

У планах паездка на малую радзіму жонкі, потым — некалькі дзён у Мінску.

«Хоць за 20 гадоў і змянілася амаль усё тут, я адчуваю, што гэта ўсё сваё, што я дома, — кажа Навумчык. — Таксама дачка мне сказала, што разумее, чаму расейскія кінематаграфісты здымаюць свае серыялы ў Мінску, бо гэта сапраўды вельмі прыгожы горад».

Пры гэтым ён узгадаў, што ў эміграцыі прайшла амаль палова яго жыцця. Але Навумчык падкрэсліў, што ніколі не хацеў з'язджаць з краіны, гэта не быў яго выбар.

Навумчык падкрэсліў, што ён не змяніў сваіх поглядаў: «Я застаюся на тых пазіцыях, на якіх і быў. І калі краіна называецца Рэспубліка Беларусь, то кіраўнік павінен займаць пасаду не больш за два тэрміны, калі гэта сапраўды рэспубліка, а не манархія».

На пытанне, ці плануе ён вярнуцца на пастаянна і ці не збіраецца ўзначаліць партыю ці стварыць уласны рух, Навумчык адказаў так: «Я лічу, што галоўная гістарычна-палітычная місія мая і маіх калегаў па апазіцыі была выкананая 21 жніўня 1991 года, калі пры падтрымцы тысяч людзей мы стварылі гэтую краіну, калі прымалі першыя законы. І я разумею, што ў палітыцы нічога больш не зраблю. Таму для мяне сёння галоўнае — завяршыць цыкл кніг найноўшай гісторыі. А ўвогуле, ёсць такая прымаўка: «Хочаш насмяшыць Бога — раскажы яму пра свае планы на наступны тыдзень».

**УШ**

# Прыбытак Машэнскага ўпаў у 440 разоў, Чыжа — у 20 разоў

Топ-20 лідараў і аўтсайдараў эканомікі за год


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Міністэрства фінансаў Беларусі апублікавала фінансавыя справаздачы адкрытых акцыянерных таварыстваў краіны за 2015 год. Апроч таго, інфармацыю пра сваю фінансавую сітуацыю агучылі кампаніі, якія выпускалі аблігацыі. Нарэшце, Нацбанк публікуе справаздачы банкаў краіны.

На падставе гэтых звестак «Наша Ніва» склала топ-20 самых прыбытковых і стратных кампаній з адкрытай справаздачнасцю.

Для зручнасці ўспрымання лічбаў сумы пераведзеныя ў даляры па леташнім сярэднім курсе — 15864,62.

Лідары эканомікі засталіся ранейшымі: «Беларуськалій» і «Мазырскі НПЗ». А вось «Нафтан», які пазалетась зарабіў пад $200 мільёнаў, летась меў менш за $4 мільёны.

У барацьбе прыватнікаў цяпер наперад выйшаў «Контэ Спа». У «Еўрагандля» (крамы «Еўраопт») адставанне на некалькі мільёнаў даляраў.

У 2014 годзе ў топ прыбытковых кампаній уваходзіў «Трайпл» Юрыя Чыжа з $65 мільёнамі. Цяпер прыбытак усох да $3,3 мільёна.

Як спрацавалі кампаніі іншых мільянераў?

«Тапас» з Паўлам Белым у кіраўніцтве зарабіў $1,35 мільёна.

«Савушкаў» Аляксандра Машэнскага зарабіў толькі $93 тысячы, тады як пазалетась было больш за $40 мільёнаў. «Растэм» Юрыя Авяр'янава меў чыстыя страты памерам $2,6 мільёна.

Анатоль Тарнаўскі са сваім «Юнівест-М» страціў $11,2 мільёна, а Аляксандр Шакуцін з «Амкадорам» — $13,7 мільёна.

**Ягор Марціновіч**

**Топ-20 самых прыбытковых і стратных беларускіх кампаній з адкрытай справаздачнасцю за 2015 год (лічбы ў мільёнах даляраў)**

| самыя прыбытковыя | | | самыя стратныя | |
|---|---|---|---|---|
| **Кампанія** | **Прыбытак** | **№** | **Кампанія** | **Страты** |
| Беларуськалій | 709,8 | **1** | Беларускі металургічны завод | -165,4 |
| Газпромтрансгаз Беларусь | 310,6 | **2** | Гомсельмаш | -121,2 |
| Мазырскі НПЗ | 220,8 | **3** | Брэстэнерга | -118,7 |
| Банк развіцця | 112,2 | **4** | Светлагорскі ЦКК | -62,0 |
| Прыёрбанк | 71,5 | **5** | МАЗ | -61,2 |
| Белгазпрамбанк | 64,5 | **6** | МТЗ | -55,6 |
| Беларусбанк | 63,3 | **7** | Атлант | -35,6 |
| Віцебскэнерга | 46,0 | **8** | ЗЛіН | -35,4 |
| Гомельтранснафта «Дружба» | 41,9 | **9** | Крычаўцэментнашыфер | -30,8 |
| Гомельэнерга | 38,8 | **10** | Гомельшкло | -29,8 |
| Пеленг | 35,9 | **11** | Барысаўскі мясакамбінат | -29,4 |
| Банк Белвэб | 34,2 | **12** | Беларускі цэментны завод | -20,8 |
| Контэ Спа | 26,7 | **13** | Лідскі малочна-кансервавы камбінат | -17,5 |
| Белаграпрамбанк | 26,6 | **14** | Гроднаэнерга | -17,1 |
| 558-ы Авіяцыйны рамонтны завод | 25,6 | **15** | Слуцкі мясакамбінат | -17,0 |
| Пінскі камбінат хлебапрадуктаў | 25,1 | **16** | Слуцкі сыраробны камбінат | -16,3 |
| Гродзенская тытунёвая фабрыка «Нёман» | 24,3 | **17** | Агракамбінат «Скідзельскі» | -16,2 |
| Еўрагандаль | 23,7 | **18** | Краснасельскбудматэрыялы | -15,7 |
| Агракамбінат «Дзяржынскі» | 23,4 | **19** | Маладзечанскі малочны камбінат | -15,1 |
| Прамагралізінг | 19,8 | **20** | Здравушка-мілк | -14,8 |

### З топ-10 прамысловых гігантаў за год звольнілі 8 тысяч работнікаў

«Наша Ніва» параўнала, на колькі змянілася колькасць работнікаў 50 найбуйнейшых прадпрыемстваў краіны — ад МАЗа (17535 работнікаў) да Барысаўскага завода медыцынскіх прэпаратаў (2686 работнікаў).
Часцяком гэта горадаўтваральныя прадпрыемствы, ад паспяховасці якіх залежыць дабрабыт цэлых населеных пунктаў.
За год сукупная колькасць работнікаў на гэтых топ-50 прадпрыемствах скарацілася з 271 тысячы да 259 тысячы чалавек.
Але найбольш адчувальна крызіс ударыў па раздзьмутых штатах топ-10 прадпрыемстваў накшталт МТЗ і МАЗа. Іх сукупная колькасць работнікаў зменшылася са 124 да 116 тысяч чалавек.

**Топ-5 прамысловых гігантаў па колькасці звольненых за год работнікаў**
1. МТЗ — 1846 чалавек
2. МАЗ — 1344 чалавекі
3. Белшына — 1187 чалавек
4. МАПІД — 1146 чалавек
5. Нафтан — 981 чалавек

**Топ-5 прамысловых гігантаў па колькасці нанятых за год работнікаў**
1. МЗКТ — 550 чалавек
2. Бабушкіна крынка — 386 чалавек
3. Магілёўаблаўтатранс — 338 чалавек
4. БМЗ — 195 чалавек
5. Беларуськалій — 168 чалавек

**ЯМ**

# «Не ўяўляю, чым кіраваліся, калі абезгалоўлівалі наша прадпрыемства»

Апошняе слова **Ганны Шарэйка**.



У Вярхоўным судзе з апошнім словам выступіла былая генеральная дырэктарка Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі Ганна Шарэйка. Прысуд сенатарцы, з якой была знятая недатыкальнасць, будзе вынесены 10 чэрвеня.

Шарэйка ўзначальвала прадпрыемства з 1998 года да свайго затрымання ў жніўні 2014 года. Яна падкрэсліла, што працавала на птушкафабрыцы са студэнцкай лавы, заўсёды сумленна і з пазіцыі дзяржаўнага чалавека: «Ніякае асабістае стаўленне не магло паўплываць на мае адносіны да фабрыкі».

Шарэйка даводзіла, што пры ёй фабрыка стала адным з самых паспяховых прадпрыемстваў краіны (глядзі ўрэзку). «Прадпрыемства развівалася, нарошчвала аб'ёмы, выконвала даведзеныя паказчыкі, ніколі не мела даўгоў перад бюджэтам, па заробках і за энерганосьбіты», — заявіла былая кіраўніца фабрыкі.

Шарэйка адзначыла, што не хоча насіць пляму злачынцы, якую «не заслужыла ніякім чынам». Яна таксама падкрэсліла, што хоча зразумець, чым кіраваліся прадстаўнікі праваахоўных органаў, калі абезгалоўлівалі буйное шматпрофільнае прадпрыемства ў разгар рэалізацыі стратэгічных для прадпрыемстваў і галіны аб'ектаў, у тым ліку, магутнага камбікормавага завода, які датэтуль знаходзіцца ў стадыі пусканаладкі, хоць увесці ў строй яго планавалі яшчэ ў канцы 2014 года.

Страты фабрыкі за перыяд сядзення ў СІЗА ключавых спецыялістаў былая дырэктарка ацаніла на 230 мільярдаў рублёў.

Шарэйка, як і пяцёра астатніх абвінавачаных, папрасіла сябе апраўдаць. Сёмы, які прызнаў сваю віну, папрасіў вынесці «аб'ектыўны прысуд».

**Tut.by**

### Фабрыка зарабіла $90 мільёнаў, а цяпер упершыню стала стратнай

| Год | Прыбытак | Работнікі |
|---|---|---|
| 2006 | $5,8 мільёна | 1548 |
| 2007 | $7 мільёнаў | 1658 |
| 2008 | $9,8 мільёна | 1905 |
| 2009 | $11,4 мільёна | 2272 |
| 2010 | $9,4 мільёна | 2707 |
| 2011 | $20,4 мільёна | 3147 |
| 2012 | $10,7 мільёна | 3436 |
| 2013 | $6 тысяч | 3137 |
| 2014 | $14,69 мільёна | 3018 |
| 2015 | - $2,83 мільёна | 2973 |

«Наша Ніва» параўнала, як працавала прадпрыемства Шарэйка апошнія дзесяць гадоў.

На працягу 2006—2014 гадоў чысты прыбытак Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі склаў $90 мільёнаў. У першы ж год пасля арышту дырэктаркі былі зафіксаваныя страты.

# Калі на Пефціева наклалі санкцыі, на яго жонку былі зарэгістраваныя 12 афшораў

Інтэрнэт-выданні Мальты апублікавалі інфармацыю пра афшоры, зарэгістраваныя на жонку беларускага бізнэсоўца Уладзіміра Пефціева. Пра іх стала вядома з «панамскіх дакументаў».

Калі на кампаніі Пефціева былі накладзеныя санцыі Еўрасаюза, на Брытанскіх Віргінскіх астравах і Сейшэльскіх астравах былі створаныя 12 афшорных кампаній.

Пры іх рэгістрацыі Макарава пакінула ў якасці адраса свае апартаменты на Мальце, дзе сям'я жыла з сярэдзіны 2000-х гадоў.

Мальтыйскія СМІ не паведамляюць, для якіх мэтаў выкарыстоўваліся афшоры.

**ЯМ**

### У Брытаніі зачынілася апошняя тытунёвая фабрыка

У англійскім графстве Нотынгем спыніла працу апошняя ў краіне тытунёвая фабрыка. Кампанія *Imperial Tobacco*, якой належала прадпрыемства, сфакусуецца на ўсходнееўрапейскіх і азіяцкіх рынках.

Кампанія паступова пераносіць свае заводы ў іншыя краіны, дзе таннейшая працоўная сіла. Перанос вытворчасці ў Германію і Польшчу павялічыць выручку кампаніі на $465 мільёнаў.

«Справа ў падзенні вытворчасці, і адзін з фактараў тут — негатыўнае стаўленне да курэння ў грамадстве», — кажуць прадстаўнікі кампаніі. Цяпер бізнэс нацэльваецца на азіяцкія рынкі, дзе сацыяльнае непрыманне курэння не такое моцнае, — Ірак, Сірыя, Кітай, а таксама Расія.

**BBC**

## Сцісла

### «БТА-Банк» пераймянуюць у «Казкамерцбанк»

Галоўны акцыянер беларускага «БТА Банка» — казахстанскі інвестар Кенэс Ракішаў — выказаў намер перадаць банк на баланс казахстанскага «Казкамерцбанка» і правесці рэбрэндынг.

### Сярэдні заробак у Польшчы — роўна 1000 еўра

У красавіку 2016 года ён склаў 4312,64 злотага. Гэта роўна 1000 еўра ў эквіваленце пры пераліку на тагачасны курс. У параўнанні з сакавіком заробак зменшыўся на 38 злотых.

### У Беларусі хочуць стварыць прыборабудаўнічы кластар

Прыборабудаўнічыя кампаніі Беларусі хочуць аб'яднацца ў кластар, які зможа забяспечыць сярэдні заробак 1300 даляраў для 3500 супрацоўнікаў. Па задумах арганізатараў, першапачаткова ў склад кластара ўвойдуць 8—10 паспяховых прыборабудаўнічых кампаній Беларусі. Зараз з удзельнікамі праводзяцца перамовы.

**ЯМ**

# Германія, або Усё з розумам

**Шмат хто з беларусаў бываў у Германіі, Берліне. Таму не мае сэнсу засяроджваць увагу на відавочных адрозненнях краін, такіх як памер заробку, узровень жыцця і дарогі. Сёння мы раскажам, як немцы прасоўваюць новыя тэхналогіі, пра якія ў Беларусі яшчэ і не чулі.**

### «Усё пачыналі рамантыкі, але потым замест іх прыйшлі капіталісты»

Што найбольш уражвае ў сённяшняй Германіі — гэта іхні падыход да карыстання энергіяй. Доля энергіі з альтэрнатыўных крыніц дасягнула 30% ад агульнага спажывання — як ад вугалю і АЭС разам узятых!

Калісьці размовы пра сонечную і ветравую энергію выклікалі толькі ўсмешку.

Але на пачатку 2000-х стала зразумела: прадукцыйнасць сонечных і ветравых генератараў расце, а цана на такую энергію падае, і немцы пачалі ўсталёўваць іх паўсюдна. За 15 гадоў інвестыцыі ў альтэрнатыўную энергетыку Германіі склалі 200 мільярдаў еўра. Сума, дарэчы, не такая і гіганцкая, калі ўлічыць маштаб краіны. Затое на сёння ў гэтай галіне працуюць каля 400 тысяч чалавек.

«Усё пачыналі рамантыкі, але потым замест іх прыйшлі капіталісты», — сказаў мне адзін немец, які займаецца тэхабслугоўваннем ветракоў у Ніжняй Саксоніі.

Пераход на ўзнаўляльныя крыніцы — не толькі ініцыятыва «зверху». Нават простыя сяляне ў Германіі размяшчаюць на дахах дамоў сонечныя панэлі, каб быць незалежнымі ад дзяржавы і вялікіх кампаній. Што ў сваю чаргу робіць больш незалежнай саму дзяржаву.

Тут логіка простая: альбо мы купляем энерганосьбіты (у Расіі) і выводзім свае грошы з краіны, альбо вырабляем сонечныя панэлі ў сваёй краіне, прадаём іх сваім грамадзянам і пакідаем грошы тут. Так думае нямецкі ўрад.

Некаторыя буйныя гульцы на рынку альтэрнатыўнай энергетыкі ўжо ўсур'ёз кажуць, што традыцыйныя энерганосьбіты аджылі і што наспявае патрэба ствараць штосьці накшталт АПЕК ва ўзнаўляльнай энергетыцы.

Дарэчы, немцы скептычна ставяцца да атамнай энергетыкі, да якой беларусы толькі намацваюць шлях.

Невялічкая краіна не можа дазволіць сабе рызыку новай Фукусімы ці Чарнобыля, мяркуюць яны. А з АЭС такая рызыка заўжды ёсць.

Пасля аварыі на «Фукусіме» ўрад Германіі са згоды ўсіх палітычных партый пастанавіў спыніць усе 17 атамных станцый. 8 з іх адключылі адразу ж, у 2015-м — яшчэ адну. Астатнія мяркуецца спыніць да 2022 года.

Другая прычына адмовы ад атамнай энергіі — гэта яе дарагавізна. Так, менавіта дарагавізна! Гэтак лічаць ашчадныя немцы. Яны не маюць свайго ўрану і, па іхніх прагнозах, адэкватная цана на ўран будзе трымацца яшчэ гадоў 30, пасля чаго скарачэнне запасаў гэтага рэчыва непазбежна зробіць яго вельмі дарагім. Да таго ж абслугоўванне атамных станцый таксама патрабуе велізарных грошай.

Напрыклад, як арганізаваць бяспечнае пахаванне радыеактыўных адкідаў пасля закрыцця атамных станцый? Па падліках экацэнтраў, усе выдаткі, звязаныя з закрыццём станцый і захаваннем адкідаў, патрабуюць каля 40 мільярдаў еўра, па некаторых разліках і ўсе 70. А на тое, каб пахаваць усе атамныя адкіды, спатрэбіцца каля 100 гадоў! Месца для магільніка яшчэ не знойдзена, бо насельніцтва, што жыве побач з прапанаванымі раней пляцоўкамі, выступае рашуча супраць такога суседства.

Нарэшце, распад ядзерных рэчываў складае сотні тысяч гадоў. І ўвесь гэты перыяд тэрыторыі пахавання давядзецца пільна ахоўваць. А гэта ўсё грошы наступных пакаленняў.



Машыну ў Берліне можна зняць адной эсэмэскай. Эканомна!


Графіці ў Берліне.

**Доля энергіі з розных крыніц у Германіі**

**2005** агулам: 622,6 тВтг
узнаўляльнай: 62,5 тВтг




**2015** агулам: 647,1 тВтг
узнаўляльнай: ~ 194 тВтг




### Car2Go

А вось іншая навацыя. Здавалася б, вельмі простая, але таксама карысная і рацыянальная.

Немцы распрацавалі і актыўна карыстаюцца сістэмай *Car2Go*. Гэта сістэма, дзякуючы якой можна арандаваць машыну цягам адной секунды.

*Car2Go* так і перакладаецца — «машына ехаць». Выглядае гэта так. Амаль на кожнай вуліцы ёсць стаянка, там прыпаркаваныя сінія малыя двухмясцовыя машыны з невялікім багажнікам.

Гэта электрамабілі, якія стаяць на зарадцы да таго моманту, пакуль вы не вырашыце імі скарыстацца. Усё робіцца праз мабільны дадатак, звязаны з крэдытнай карткай кліента. Адна хвіліна аўтарызацыі праз мабільны тэлефон — і дзверы машыны аўтаматычна адмыкаюцца, пасля чаго яе можна заводзіць.

Гадзіна карыстання такой машынай — каля 14 еўра. Не танна? Але танней за таксі. Нават у Беларусі праедзь кудысьці на таксі гадзіну — заплаціш больш. А пры нямецкіх заробках гэта і зусім даступная паслуга.

На адной падзарадцы гэткі электрамабіль праедзе недзе 150 кіламетраў. Скончыўшы паездку, трэба прыпаркаваць машыну на аналагічнай адмысловай стаянцы — гэта каб праграма выставіла канчатковы рахунак, а наступны чалавек таксама мог сесці ў зараджаны электрамабіль.

*Car2Go* папулярны сярод гарадскіх жыхароў, для якіх утрымліваць уласныя машыны дорага і часам немэтазгодна. Таму ў планах немцаў стварыць агульнанацыянальную сістэму пракату такіх машын.

Гэта будзе выглядаць накшталт практыкі старадаўніх паштовых станцый, на якіх кур'еры мянялі зморанных у дарозе коней на новых. Станцыі *Car2Go* пачнуць размяшчаць не толькі ў гарадах, але і паміж імі, каб чалавек без праблем мог памяняць машыну з нізкім зарадам і ехаць далей.

### Якія яны, нямецкія аграгарадкі

Нямецкая вёска і беларуская — кардынальна розныя. Там няма калгасаў і «начальства». Кожны сам пра сябе дбае, але кожны й добра мае.

Немагчыма ўявіць, каб па нямецкай вёсцы боўталіся п'яныя рабочыя.

Тут вёска — гэта месца для жыцця. Шмат хто працуе ў горадзе, але багата і фермераў.

У кожнай вёсцы ёсць свой бар і гатэльчык, дзе ёсць і вай-фай, і зычлівыя супрацоўнікі, і нумары, да якіх яшчэ не кожны гатэль у беларускім райцэнтры дацягне.

Імкліва развіваецца агратурызм. І не сказаць, што ўсе нямецкія краявіды прыгажэйшыя за нашыя. Проста немцы бяруць сэрвісам і павагай да кліента.

### Граф

У Германіі не было пагалоўнага вынішчэння арыстакратычных родаў і іх уласнасці. Таму зайсці ў госці да сапраўднага графа ў ягоны маёнтак — звычайная справа. Прынамсі, аўтар пабываў у такіх гасцях.

Вядома, сёння арыстакратычны тытул не дае ніякіх выгадаў у жыцці, а побыт сучаснага арыстакрата не розніцца ад суседскага. Зрэшты, звычайны немец з сярэднім заробкам можа пабудаваць сабе дом раскошнейшы за старую сядзібу XVIII ст. Але справа тут у іншым — спадчынным духу. Прыналежнасць да роду ўскладае на ўсіх яго прадстаўнікоў адказнасць за лёс зямлі, дзе гадаваліся і працавалі іхнія продкі. Прынамсі, так мне казаў сам граф. А гэта тое, чаго вельмі бракуе беларусам.

### Гарадское жыццё

Параўноўваючы дзве сталіцы — Мінск і Берлін, — можна сказаць, што яны нечым падобныя. Перадусім архітэктурна — невысокія будынкі ў цэнтры, жылыя кварталы на ўскрайках.

Што цікава, немцы так перарабляюць старыя савецкія хрушчоўкі, пабудаваныя за ГДР, што сёння яны добра ўпісваюцца ў гарадскую архітэктуру — іх прыгожа перафарбавалі ці змянілі планіроўку і дабудавалі звонку празрыстыя ліфты.

Такі падыход да горадабудаўніцтва і адсутнасць казарменнага мыслення і робяць Берлін прывабным. Тут ніхто не стане замалёўваць прыгожыя графіці, як гэта робяць у Мінску.

Агулам жа маё ўражанне: Берлін і Германія па-ранейшаму квітнеюць. Усеросказні пра іх праблемы на нашым тэлебачанні — лухта. Немцы вельмі разумна і з думкай пра будучыню вырашаюць праблемы, якія перад імі паўстаюць.

**Арцём Гарбацэвіч**

**Цэны ў Берліне**

Цэны ў Берліне лічы што мінскія: штосьці таннейшае, штосьці даражэйшае.
Толькі што кідаецца ў вочы меншая, чым у нас, колькасць прадуктовых крамаў. Людзі найбольш закупляюцца ў вялікіх гіпермаркетах за горадам.
Па-другое, і гэта завядзёнка ўсёй Заходняй Еўропы, што людзям прасцей і танней купляць ежу ў кулінарыях або есці ў рэстаранах, чым гатаваць самастойна.


А ў нас у полі — вярба. У ў іх у полі — сонечная панэлі.


...І на доме ў вёсцы — таксама сонечная панэлі.

Артыкул друкуецца ў межах спецыяльнай рубрыкі «Навіны Германіі»

# Фатограф Сяргей Лескець: У нас б’юць не таго, хто ў хаце не прыбраў, а таго, хто святло ўключыў

**Жыць у беларускай правінцыі і друкавацца ў еўрапейскіх часопісах? Лёгка! Фатограф Сяргей Лескець з Заскавіч, вёскі пад Маладзечнам, публікуецца ў брытанскім Guardian і выстаўляецца ў сталіцах. Лескець расказвае свае правілы жыцця і ўмовы поспеху.**



**Прызнанне ў свеце Сяргей Лескець здабыў серыяй здымкаў жыхароў беларускіх аграгарадкоў.**

**Сяргей Лескець:** Я нарадзіўся ў 1984 у Маладзечанскім раёне, у вёсцы Турэц-Баяры. Затым сям’я перабралася ў Заскавічы. Бацька — звычайны трактарыст, пенсіянер, але працуе. Маці працуе на чыгунцы. У пачатку 90-х яны хацелі заняцца фермерствам, набралі крэдытаў... Але ж не выйшла.

У дзяцінстве я любіў чытаць кніжкі. Мне бацька падкінуў «Палескіх рабінзонаў» Янкі Маўра — я першыя пару старонак ледзь адолеў, а потым як уцягнуўся... Яшчэ з сябрамі любілі ездзіць на роварах па суседніх вёсках, пашыралі «зону камфорту». І гэтая цікавасць да даследаванняў, падарожжаў, пошуку ў мяне не згасла і па сёння. Увогуле, у дзяцінстве я вельмі любіў і «Клуб кінападарожжаў», і «Каманду Кусто». Маці і па сёння ўзгадвае гісторыю, як яна збіралася ў нашу вясковую краму і спытала, што мне купіць. А я адказаў: «Акваланг!».

**«НН»: А да фатаграфіі як прыйшлі?**

**СЛ:** Ну, спачатку я хацеў быць гісторыкам. Даследаваў свой радавод, гісторыі навакольных вёсак, цікавіўся гісторыяй антысавецкага супраціву. Вярстаў «Куфэрак Віленшчыны» — гісторыка-краязнаўчы і літаратурна-мастацкі часопіс. Нават паступіў у Мінск на гісторыка. Вучыўся платна, таму падпрацоўваў — паркоўшчыкам,

### Вучыўся платна, таму падпрацоўваў — паркоўшчыкам, напрыклад

напрыклад. Да таго ж мяне ўзялі ў Беларускі калегіум, я гадзінамі праседжваў у Нацыянальнай бібліятэцы, чытаў старыя рэдкія кнігі... Але з універсітэта мяне адлічылі з 3,5 курса.

**«НН»: Чаму?**

**СЛ:** Можа, таму што ў мяне было шмат пропускаў — а пропускі былі, бо я «прападаў» у бібліятэцы. І я пайшоў у армію. Быў сувязістам, служылася нармальна. Затым, пасля войска, працаваў ахоўнікам у краме ў Мінску. У мяне тады было шмат сяброў, была крутая тусоўка мастацка-культурніцкая ў сталіцы, дый дзяўчына мая хацела застацца ў Мінску.

Але я заўсёды шукаў такую працу, каб заставаўся час на мае справы. Падарожжы, фотаздымкі. Дарога расстаўляе акцэнты. Калі праходзіш па вёсках, ідзеш па некалькі кіламетраў пехатою, без тэлефона, без інтэрнэту, думаеш пра сваё, разважаеш... Ачышчаешся.

І фатаграфаваць я спрабаваў спачатку для сябе: дзевачкі-кветачкі, здымаў вяселлі знаёмых... Да таго ж фатаграфія была такім дадаткам да блогерства — я вёў блог, выкладаў там фота... Але, здымаючы тыя вяселлі, я паціху пачаў разумець, што здымаю вясковую традыцыю, якая трансфармуецца.

Таксама я зразумеў, што, каб чагосьці дасягнуць, чымсьці трэба ахвяраваць. Спачатку я думаў, што перахварэю на сваё краязнаўства, вандроўкі, буду звычайным «сытым бюргерам». Але не папусціла. Да таго ж паступова фатаграфія пачала цікавіць мяне ўсё больш і больш.

Але працаваць трэ’ было хоць дзе. Я пайшоў працаваць на чыгунку. І трапіў на будаўніцтва чыгункі ля АЭС. Зняў рэпартаж адтуль — тады я ўжо цікавіўся дакументальнай фатаграфіяй.

**«НН»: А чаму вырашылі з’ехаць з Мінска?**

**СЛ:** Мая дзяўчына — сёння мы ўжо ажаніліся — пасля сканчэння ўніверсітэта не магла знайсці нармальную працу. Яна перакладчыца, а на той момант вакансій па спецыяльнасці для яе не было. І збанкрутавала фірма, дзе працаваў я. Таму стала зразумела, што трэба нешта мяняць. Мы перабраліся ў Маладзечна: мае бацькі недалёка, і мая каханая сама родам адсюль. Ажаніліся.

**«НН»: А ў чым розніца для вас паміж жыццём у сталіцы і ў правінцыі?**

**СЛ:** Мінск — гэта не маё. Фактычна ў Мінску сябе не знайшоў. Гэта не мой горад. Ды і жыць, калі ты не ведаеш суседзяў, людзі адзін з адным не вітаюцца... Душнавата. У правінцыі людзі ўсё ж больш светлыя, душэўныя. Жыццё запаволенае. Але ёсць і такая хамаватасць — напрыклад, выходзіш з аўтобуса, а табе дарогу ніхто не саступіць. Хамаватасць кантралёраў, міліцыі...

**«НН»: І калі пераехалі ў Маладзечна, то чым займаліся?**

**СЛ:** Я хацеў паспрабаваць сябе ў фотажурналістыцы. Ну і разаслаў рэзюмэ з фотаздымкамі з чыгункі ля АЭС у розныя рэдакцыі. Адгукнуліся з «Інтэрфакса», ім спадабалася, што я прыдумаў ідэю для рэпартажа сам. Мы пачалі супрацоўнічаць.

Пасля мяне пазвалі на *kraj.by* — мясцовы рэгіянальны сайт. Але заробкі былі вельмі маленькія. Здымак каштаваў 5 тысяч рублёў. Да таго ж, калі сайт недзяржаўны, то там часам складаней працаваць, чым на дзяржаўным. Пры гэтым яны хацелі, каб больш я ні з кім не супрацоўнічаў. Але ж была свабода.



Сяргей Лескець, аўтапартрэт.

**«НН»: А як жа вы жылі за тыя грошы?**

**СЛ:** Я падпрацоўваў на мясакамбінаце. Два праз два графік, 600 даляраў заробак. Нармальна. Два дні працуеш, два дні здымаеш. Дарэчы, адздымаў і серыю з мясакамбіната.

Паступова я зразумеў, што блогерства, краязнаўства — усё ж не маё. Хацелася рабіць сур’ёзныя фотапраекты. І было нейкае непаразуменне з рэдактарамі: бо кожны ж «усё ведае». Я выпрацоўваю сваю візуальную мову, а ад іх чую, што гэта «цемнавата», тое — «нецікава»... Мяне гэта абурала. Да таго ж я хацеў вырвацца са свайго рэгіёна, а для *kraj.by* асноўныя тэмы — Маладзечанскі раён. Ну і стала зразумела, што час валіць.

**«НН»: Куды?**

**СЛ:** Я здымаў партрэты бабак-шаптух. Дарэчы, на *kraj.by* гэтая тэма не зайшла, бо рэдактарка-каталічка была супраць. Дык вось, я звязаўся з Веранікай Трызна з «Інтэрфакса», з якой супрацоўнічаў раней. Прапанаваў ёй. Але яна з камандай сыходзілі на *Sputnik* якраз, паабяцалі, што як толькі гэты новы праект запрацуе, то мяне паклічуць. Тады я разаслаў рэзюмэ хіба не ва ўсе беларускія СМІ, але ніхто не адгукнуўся. А пасля мяне паклікалі на *Sputnik*. Там я пазаштатнік. Здымаю і для іх, і свае праекты.

**«НН»: А як жа рэпутацыя? «Спутнік» жа даччын праект «Расіі сёння». Кісялёўшчына, усё такое?**

**СЛ:** Мне, каб здымаць без перашкодаў, усё ж патрэбна акрэдытацыя да нейкага СМІ. І пытанне паўстала так: альбо *Sputnik*, альбо нічога. А працаваць хочацца.

**«НН»: А як вашымі здымкамі зацікавіліся замежнікі?**

**СЛ:** У мяне была сяброўка з вёскі. Да яе прыязджала сястра, якая вучылася ў Амерыцы, пасля — у Гарвардзе. І яна была датычная да праекту *Belarus-digest.* Ну і вось, праз знаёмых даведаліся пра мяне. Надрукавалі мае вясковыя партрэты. А праз іх мае здымкі трапілі ў *Guardian.*

**«НН»: А што ў Беларусі цікавіць беларусаў, а што цікавіць замежнікаў? У плане фатаграфіі, маю на ўвазе.**

**СЛ:** Ну... У беларускіх СМІ, напрыклад, ёсць свая спецыфіка ў кожнага. Я не буду здымаць для «Спутніка» палітычныя падзеі, бо не ведаю, як здымак падпішуць, напрыклад. Для іх я здымаю традыцыі, абрады.

Што тычыцца замежнікаў, то гэтая чарнуха 90-х, «як усё дрэнна ў Беларусі», адыходзіць паціху. Ім патрэбна нейкае іншае бачанне. Хаця ўмоўныя «бабкі ў андараках» і па сёння нармальна прадаюцца.

**«НН»: Ваша найвядомая серыя прысвечаная жыццю ў аграгарадках. Чаму?**

**СЛ:** Гэта вельмі цікавы феномен. Бо аграгарадкі — фішка папулісцкая, але яна спрацавала. Я раней думаў, што людзі з вёскі будуць толькі з’язджаць. Але не, у аграгарадках яны жывуць, гадуюць дзяцей. І я захацеў паказаць гэтых людзей, як яны бачаць жыццё, як яны жывуць самі. У нейкай ступені гэта партрэт эпохі, антрапалагічнае даследаванне.

**«НН»: А што такое для вас сённяшні аграгарадок?**

**СЛ:** З аднаго боку, гэта стан сучаснай вёскі, якая да яго сама ішла, проста ёй, можа, трохі дапамаглі. А традыцыйная вёска сыходзіць, памірае, няма пераемнасці. Сённяшні вясковец не жыве так, як яго прадзед. А з другога боку, фінансаванне аграгарадкоў скарачаецца. Гэтая эпоха неўзабаве таксама адыдзе. І я хачу гэта зафіксаваць.

**«НН»: З кім цяжэй працаваць: з моладдзю з аграгарадкоў ці з бабулямі з вёсак?**

**СЛ:** З моладдзю працаваць вельмі проста. Праблема ў аграгарадках, хутчэй, з людзьмі, якія пры ўладзе, якія могуць дазволіць ці забараніць здымаць штосьці. Яны не разумеюць, што адбываецца і навошта. Я прывозіў у свой родны пасёлак аўстрыйцаў, якія цікавіліся жыццём сучаснай беларускай вёскі, дык пасля маёй маці выгаворвалі, нібыта я прыцягнуў замежнікаў, каб паказаць, як беларусы бедна і брудна жывуць. Дык а я лічу так: хочаце, дык рабіце чысцей, калі лічыце, што ў вас брудна, а не сядзіце па лаўках. Прычым тут я? А гэта паказушнасць наша, якая засталася асабліва ў дзяржаўнай прэсе, калі фатаграфія ўспрымаецца як прапаганда... У нас б’юць не таго, хто ў хаце не прыбраў, а таго, хто святло ўключыў.

А са старымі ў вёсках дапамагае беларуская мова. Размаўляеш па-беларуску, то адразу табе давяраюць. Магія. Да таго ж гэтыя шаптухі замаўляюць і лякуюць па-беларуску. Вылечваюць беларускім словам, гэта неймаверна.

**«НН»: А чым вы розніцеся ад іншых беларускіх фатографаў?**

**СЛ:** Шмат хто проста лянуецца ездзіць і шукаць цікавыя тэмы. Многа хто ўвогуле не выязджае з Мінска. А калі едзе, то вёску здымаюць банальна: вышыванкі, бабулькі, усякае такое.

Я хачу сказаць сваё слова. Бо праўду мала хто паказвае. «Советская Белоруссія» пакажа так, «Хартыя» інакш, а на справе ж усё і не так, і не гэтак. А я хачу рабіць аб’ектыўна, нейтральна.

**Гутарыў Улад Швядовіч,**
**Маладзечна—Мінск**

# Дзе ў Беларусі большасць насельніцтва складаюць палякі, а дзе жывуць рускія і ўкраінцы — цікавыя лічбы

Папярэдні перапіс насельніцтва Беларусі прайшоў у 2009 годзе. Паводле тых звестак, на тэрыторыі краіны жылі 9 503 807 чалавек. Белстат лічыць, што за мінулыя гады гэтая лічба паменшала толькі на 4 тысячы чалавек.

Адно з пытанняў таго перапісу датычылася нацыянальнасці. Выявілася, што доля беларусаў працягвае расці і перавысіла 83,7% насельніцтва. Часцяком дзеці прадстаўнікоў этнічных меншасцяў называлі сябе беларусамі.

Падчас перапісу не абышлося і без «збояў». Нехта насуперак правілам называў адразу дзве свае нацыянальнасці, нехта не называў ніводнай. Такім чынам «выпала» 2,4% апытаных — каля 230 тысяч чалавек.

Статыстыка была апублікаваная па раёнах, аднак без падрабязнага падзелу па сельсаветах. Цяпер жа ўкраінскі блогер Цім Бяспятаў апрацаваў масіў звестак і апублікаваў табліцу з падрабязнымі вынікамі перапісу-2009.

Якія цікавыя назіранні можна зрабіць?



### Руская большасць пад Кіраўскам

Паводле перапісу, доля рускіх складала 8,26% — кожны дванаццаты жыхар Беларусі лічыць сябе рускім. Гэта найбольшая этнічная меншасць у краіне.

Аднак толькі на тэрыторыі адной адміністратыўнай адзінкі рускія складаюць большасць. Гэта Скрыпліцкі сельсавет у Кіраўскім раёне. Адметна, што гэты сельсавет не памежны, а знаходзіцца пасярод Магілёўшчыны. Паводле перапісу, у ім пражывала 1465 чалавек, 56% з якіх назвалі сябе рускімі. Цікава, што на тэрыторыі сельсавета працуе калгас «Беларусія».

Рэч у тым, што ў Кіраўскім раёне ўжо трэцяе стагоддзе жыве шмат стараабрадцаў, што былі ўцяклі ад рэлігійнай нецярпімасці з Расійскай Імперыі ў Рэч Паспалітую.

### Дзе яшчэ шмат рускіх?

У Клецкім раёне ёсць мястэчка Азярэчча (раней Клецк-2), якое ўваходзіць у Галынкавіцкі сельсавет. У ім пражываюць расійскія вайскоўцы, а таксама беларусы, якія працуюць на радыёлакацыйнай станцыі «Волга». За кошт гэтага падчас перапісу доля рускіх дасягала 34%.

Такая ж лічба зафіксаваная ў Гарбацэвіцкім сельсавеце Бабруйскага раёна, амаль столькі ж — 33% — рускіх жыве ў Мачулішчах пад Мінскам. Тут прычына простая — наяўнасць авіяцыйнай базы.

Вялікая доля рускіх таксама ў пасёлках, якія знаходзяцца вакол Полацка і Наваполацка. У вайсковай Баравусе 29% рускіх, у элітным Міжрэччы — 26%.

Сярод гарадоў найбольш рускіх у спецназаўскай Мар'інай Горцы — 17%, Наваполацку — 16% і Полацку — 15%.

### Палякі дамінуюць у Воранаве

Палякі складаюць 3,1% насельніцтва краіны — кожны трыццаць другі. Гэта другая па велічыні этнічная меншасць.

На абсалютнай большасці тэрыторыі Беларусі палякаў — лічаныя дзясяткі і сотні. Аднак пры гэтым ёсць адміністратыўныя адзінкі, дзе жывуць спрэс палякі.

Напрыклад, у Воранаўскім раёне 81% насельніцтва назваўся палякамі. Падчас перапісу там жыло каля 30 тысяч чалавек, цяпер засталося каля 26 тысяч.

Тамтэйшыя сельсаветы білі рэкорд за рэкордам: Паляцкіскі сельсавет — 90% палякаў, Гіркаўскі і Пагародзенскі сельсаветы — па 89%, Жырмунскі і Доцішскі — па 88%, Радунскі — 87%, Забалацкі і Місявіцкі — 85%, Беняконскі і Перагансцаўскі — 84%, Воранаўскі — 83%, Бастунскі — 80%, Канвеліскі — 73%, Больціскі — 63%. У самім Воранаве 71% жыхароў адносіць сябе да палякаў.

Якія яшчэ астраўкі палякаў ёсць у Беларусі?

У Сапоцкіне назвалі сябе палякамі 84% апытаных. Таксама высокая доля ў Васілішкаўскім сельсавеце Шчучынскага раёна (78%), Шылавіцкім сельсавеце Ваўкавыскага раёна (77%) і Вавёрскім сельсавеце Лідскага раёна (75%).

З гарадоў найбольшую долю палякаў маюць Шчучын (39%), Ліда (35%) і Ваўкавыск (23%). Сярод абласных цэнтраў варта ўзгадаць Гродна — 20% палякаў.

### Найбольш украінцаў пад Камарынам

Трэцяя этнічная меншасць — украінцы. Іх налічылася 1,67% — кожны шасцідзесяты.

Найбольшая доля ўкраінцаў налічылася пад Камарынам — 22%. Гэта Брагінскі раён, паўднёва-ўсходні край Беларусі.

Астатнія ўкраінскія астраўкі таксама раскіданыя ўздоўж паўднёвай мяжы. Напрыклад, у Белавежскім сельсавеце Камянецкага раёна і Хацiслаўскім сельсавеце Маларыцкага раёна па 17% украінцаў. Апошні мяжуе з Украінай, а ў першым жывуць работнікі агракомплексу, куды ў савецкі час наймалі людзей з Валыні.

Сярод раёнаў найбольшую долю ўкраінцаў маюць Камянецкі, Маларыцкі і Брэсцкі раёны (па 7%). З гарадоў — Маларыта (6%), Брэст, Васілевічы і Мар'іна Горка (па 4%).

### Дробныя меншасці раскіданыя па краіне

Астатнія этнічныя меншасці надзвычай малалікія — менш за 13 тысяч чалавек, дый і тыя часта растварающа ў буйных гарадах.

Якія асноўныя «зоны аседласці» маюць астатнія нацыі?

Літоўцы ўтвараюць заўважную групу ў Больціскім сельсавеце Воранаўскага раёна (27%) і ў Гервяцкім сельсавеце Астравецкага раёна (22%).

Найбольшая канцэнтрацыя цыганоў — у вёсках вакол Жыткавіч. У ваколіцах горада яны складаюць 15,5% насельніцтва. Таксама даволі вялікія лічбы ў Прыбарскім сельсавеце (гэта ваколіцы Гомеля) — 9,9%, Майскім сельсавеце (ваколіцы Жлобіна) — 6,4%.

У Іўі татараў — 6,4%, у Навапольскім сельсавеце Пухавіцкага раёна — 2,2%, у Смілавічах — 2,1%, у Відзах — 1,2%.

Армяне жывуць у Прудкоўскім сельсавеце Мазырскага раёна — 1,9%, але гэта ўсяго толькі адна ці дзве сям'і — 11 чалавек.

Азербайджанцы адзначыліся ў Зубаўскім сельсавеце Аршанскага раёна — 1,6%, гэта 12 чалавек. Таксама адна ці дзве сям'і.

Сярод адміністратыўных адзінак найбольшая доля габрэяў у Капацэвіцкім сельсавеце Петрыкаўскага раёна (0,6%; 10 чалавек).

### 99,9% беларусаў

Напрыканцы пра самую шматлікую нацыю на тэрыторыі Беларусі — непасрэдна пра беларусаў (84% падчас перапісу).

Найменшая доля беларусаў зафіксаваная ва ўжо названых сельсаветах Воранаўскага раёна, дзе лічба апускалася да 6%. З гарадоў менш за палову насельніцтва беларусы складаюць толькі ў Шчучыне (44%) і Лідзе (49%).

А вось найбольшая лічба была зафіксаваная ў Мхініцкім сельсавеце Краснапольскага раёна, на ўсходзе краіны — 99,9% беларусаў! На тэрыторыі сельсавета жылі 1022 чалавекі, з іх толькі па адным украінцы і рускім. Астатнія — беларусы.

Сярод раёнаў наперадзе Столінскі і Лельчыцкі (па 97% беларусаў), сярод гарадоў — Любань, Янава, Клічаў і Давыд-Гарадок (па 96%).

Ягор Марціновіч



**На сэрцы**

## «Вёска — гэта не толькі бруд, але і пяшчота»

Піша Андрусь Горват.



Я прачытаў рэакцыю некаторых вядомых асоб на выставу жаночых партрэтаў у нацыянальных строях, і нейкі яно мяне зачапіла.

От Саша Раманава напісала: «Вёска — прымусовая калектывізацыя, ігнор усіх відаў мастацтваў і вяршэнства дзікай прыроды над чалавечай думкай».

А я ўчора ўпершыню ў жыцці даіў казу.

Першы раз рабіць гэта вельмі страшна. Цыцкі ў казы не такія мяккія, як у жанчыны, але цёпленькія. Хвілін дзесяць я мучыў Цёцю — і ціскаў, і дзёргаў, а ўсё дарма. Лоб ужо пачаў макрэць. А пад ілбом пабеглі думкі: «Бляха! У краме ж малако каштуе дзесяць тысяч!» Як той кажа, не мела баба клопату — купіла парася.

А потым пабегла малако. Сапраўднае белае малако! Цёця зірнула мне ў вочы і неяк адразу адчула маю радасць і стала церціся галавою аб маю нагу.

Калі ў мяне быў кот Рома, сяброўка ў мінскім гастраноме сказала:

— Ты пахнеш Ромам.

— ?

— Не ромам, а Ромам.

Цяпер я пахну Цёцяй. Цёцяй Моцяй.

Даю я Цёцю і думаю, як патлумачыць сваю радасць Сашам Раманавай ды Варламаву. І пачну здалёк.

Калі я вучыўся ў адзінаццатым класе, то марыў найхутчэй вылецець з бацькоўскага гнязда. Ну, як усе. А адным вечарам яшчэ не спаў і пачуў размову бацькоў на кухні. Яны ўзгадвалі гісторыі з маладосці, смяяліся, перабівалі адно аднаго. Тым вечарам кухня свяцілася шчасцем. І маці сказала:

— А ты ведаеш, што, калі ноччу зайсці да Андрэйкі, ён заўсёды паварочваецца на другі бок. Як бы ты ціха ні зайшоў, а ён павернецца.

Каб даказаць свае словы, маці павяла бацьку ў мой пакой. Яны краліся ціхенька-ціхенька. Але я зрабіў выгляд, што сплю, і павярнуўся на другі бок, каб яны былі радыя. У той момант усе гармоны сціхлі і я адчуў пяшчоту да бацькоў. Такую сарамлівую, троху нязвыклую пяшчоту.

Ці як я жыў на хутары, прачынаўся раненька, а ў душы было зашмат святла. Я пайшоў у поле, нарваў кветак, паставіў іх у вазу побач з жонкай. А яна спала, а з-пад коўдры высуналася каленка. І так нясцерпна захацелася пацалаваць тую каленку. І от гэта была пяшчота.

Можна тысячу разоў сказаць слова «нежность»: нежность, нежность, нежность, нежность, нежность, нежность... А адзін раз — пяшчота — і цела наліваецца цёплым малаком казы Цёці Моці.

Якой бы ні была русіфікаванай беларуская вёска, а для сапраўднай пяшчоты тут шукаюць толькі свае словы.

А прыязджаю да маці, мучыць смага, бяру слоік з бярозавікам, выпіваю мо літр. Маці ўсміхаецца, кажа:

— Здаволіўся?

Здаволіўся. А як гэта сапраўднае сказаць інакш? Як перакласці яго? Можна перакласці слова, але пяшчота не перакладзецца разам з ім. Таму мова — гэта таксама пяшчота. Сказаць гэта іншай мовай — усё адно, што выбраць не каленку любімай жанчыны, а сэкс з прастытуткай. Атрымаць толькі задавальненне — але не пяшчоту.

І купіць малако ў краме — гэта сэкс з прастытуткай. Лёгка, яксана, за грошы. Так, не трэба баяцца наблізіцца да казы, не трэба выціраць з ілба пот. Але ніхто і не лашчыцца пысай, калі бярэш той пакет ці пластыкавую бутэльку з паліцы. Нікому не скажаш:

— Цётачка, харошая ты мая. Дзякуй!

Я ўзгадваю, як на мінскім вакзале шукаў разетку зарадзіць тэлефон. Падыходзіў да касірак у краму, а яны казалі:

— Маладой чалавек, в какое врэмя вы жывёце? Ідзіце і зараджайце ў платный аўтамат.

А потым я вярнуўся ў свой Прудок, пайшоў у краму па цукар, а яго не было. Прыйшоў на наступны дзень, а прадаўчыха і кажа:

— На, я табе свой з дому прынесла.

Проста так. Задарма.

«Вёска — вяршэнства дзікай прыроды над чалавечай думкай...»

Я не сцвярджаю, што Беларусь — гэта толькі вёска. Гэта нават не абмяркоўваецца. Я люблю чытаць, як Сяргей Харэўскі піша пра Мінск. Я люблю глядзець рэканструкцыі гістарычных падзеяў, якія ладзіць Павел Калінкоў у клубе «Залатая шпора». Я люблю чытаць мемуары пра жыццё беларускай шляхты. Я толькі сцвярджаю, што вёска — гэта не толькі бруд, але і пяшчота. І партрэты жанчын у хустках у мінскім двары — гэта пяшчота.

Я запрашаю прыўкрасную Сашу Раманаву ў госці, каб навучыць даіць казу. І прыўкраснага пана Варламава таксама запрашаю, каб паказаць свае вузкія порткі з голымі лыткамі і хіпстарскую бараду.




**Шанцуе**

## Сям’я са Слуцка выйграла 5 мільярдаў у латарэю

Муж і жонка са Слуцка Васіль і Алена Пятрэнкі пайшлі на рынак перад 23 лютага, каб выбраць падарунак мужу. Нічога не знайшлі, і Васіль вырашыў узяць латарэйны білет — фактычна ўпотай ад жонкі. Квіткоў на найбліжэйшы тыраж не было, і прыйшлося ўзяць на святочны розыгрыш 8 Сакавіка. У выніку Міжнародны жаночы дзень прынёс сям’і 5 мільярдаў рублёў.

Калі муж, які сядзеў увесь эфір розыгрышу перад экранам тэлевізара і закрэсліваў лічбы ў білеце, паведаміў жонцы радасную навіну, жонка яму не паверыла.

«У нас двухпавярховы дом, і я пасля таго, як даведаўся, што мы выйгралі, патэлефанаваў жонцы з тэлефона на другі паверх. Але яна мне не паверыла і нават не спусцілася», — успамінае момант поспеху Васіль.

Муж і жонка прывыклі ўсяго дабівацца сваёй працай. Васіль працуе кіроўцам у сістэме ЖКГ, Алена — з 16 гадоў маляр на будоўлі. Таму такую нечаканую ўдачу яны ўспрынялі вельмі эмацыйна.

«Гэта проста шчасце! Мы вельмі задаволеныя, бо ў нас вялікая сям’я», — кажа Алена.

А сям’я і напраўду немаленькая. Васіль Пятрэнка прыйшоў у Міністэрства спорту і турызму на ўручэнне сертыфіката не толькі з жонкай, але і дзвюма дочкамі і пяцю ўнучкамі. Але ўсяго ў мужа і жонкі тры дачкі, сем унучак і двое ўнукаў. Унукам — ад 2 да 14 гадоў.

Пакуль што шчаслівыя не прыдумалі, як канкрэтна выкарыстаюць выйгрыш. Але частку грошай, трыццаць мільёнаў, пераможцы латарэі адразу аддаў на дабрачыннасць.

Нагадаем, што раней самы вялікі выйгрыш у гісторыі беларускіх латарэй склаў 3 мільярды рублёў. Шчаслівым аказаўся майстар цэха Барысаўскага завода аўтатрактарнага электраабсталявання. Выйгравалі і па 2 мільярды. Пераможцам тады стаў лесаруб з Віцебскай вобласці.

**Tut.by**

# Юрый Жыгамонт перанёс інфаркт, рыхтуецца да аперацыі на сэрцы

Прыкладна з тыдзень таму ў акцёра і тэлевядучага «Падарожжаў дылетанта» Юрыя Жыгамонта здарыўся інфаркт.

Прычым, кажа 48-гадовы Жыгамонт, ніякіх праблем з сэрцам раней не было — бяда прыйшла раптоўна. Ён быў дома, ужо паклаўся спаць. Раптам прачнуўся і адчуў сябе блага.

Цяпер, па яго ўласных словах, жыццю нічога не пагражае.

«Адчуваю сябе нармальна», — кажа сам акцёр і вядучы. Сёння ён знаходзіцца ў 9-й гарадской клінічнай бальніцы Мінска.

Але ж на днях яго чакае аперацыя на сэрцы. Падрабязнасці аперацыі Юрый Жыгамонт не паведаміў, але запэўніў, што працэдура шараговая.

Праўда, калі ён вернецца да працы, сказаць пакуль нельга — пасля аперацыі Жыгамонта будзе чакаць працяглы курс рэабілітацыі.

**УШ**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Юрый Жыгамонт нарадзіўся ў 1968 у вёсцы Дзямідаў Нараўлянскага раёна, але рос на Берасцейшчыне. Скончыў ПТВ па спецыяльнасці «кіроўца вежавых кранаў», а пасля — Тэатральна-мастацкі інстытут. Працаваў у тэатры «Вольная сцэна» і ў Тэатры юнага гледача. Ад 2006 — вядучы папулярнай перадачы «Падарожжы дылетанта» (цяпер — «Прыгоды дылетанта»). Перадача выходзіла на СТБ, з красавіка пачала публікавацца выключна ў Сеціве. Выпускі «Падарожжаў дылетанта» размяшчаюцца на сайце zhygamont.by. Выхад праграмы на тэлеканале СТБ, нягледзячы на хвалю глядацкага абурэння, быў спынены.

Юрый Жыгамонт жыве ў Мінску. Жанаты, гадуе дачку.

## СААЗ: Вірус Зіка летам можа распаўсюдзіцца на Еўропу

Хоць імавернасць сур’ёзнай ўспышкі захворвання невысокая, заявіла Сусветная арганізацыя аховы здароўя. Паводле дадзеных СААЗ, найбольшая небяспека — на ўзбярэжжы Чорнага мора ў Расіі і Грузіі, а таксама на востраве Мадэйра.

Краіны, дзе ўзровень небяспекі ўспышкі ацэньваецца як умераны, — Францыя, Іспанія, Італія і Грэцыя. У Вялікабрытаніі рызыка распаўсюду вірусу малая.

СААЗ заклікае ўлады краін знішчыць месцы размнажэння маскітаў і інфармаваць насельніцтва — асабліва цяжарных жанчын — пра негатыўныя наступствы захворвання.

Першапачаткова лічылася, што вірус Зіка, які прыводзіць да цяжкіх прыроджаных дэфектаў, у тым ліку мікрацэфаліі, перадаецца праз укусы адной з разнавіднасцяў маскітаў — *Aedes aegypti*, або камара жоўталіхаманкавага. Аднак пазней высветлілася, што працэс перадачы захворвання больш складаны.

СААЗ прызнала вірус глабальнай пагрозай. Вакцыны ад яго да гэтага часу няма.

**Захапленні**

## Мінчук трымаў пару ваўкоў

Іх выявілі на адным з прыватных падворкаў у Сухараве ў Фрунзенскім раёне. Жыхарка суседняй новабудоўлі паскардзілася камунальшчыкам на тое, што на тэрыторыі сядзібы знаходзяцца дзікія звяры.

Гаспадар патлумачыў, што ваўкоў набыў у адным з заездных шапіто. Ваўка і ваўчыцу ён трымаў у вальеры на падворку. Таксама ў гаспадарцы былі коні, куры, парсюк і пяць сабакаў. Раённая адміністрацыя палічыла, што жывёлы ўтрымліваюцца ў дрэнных умовах і пастанавіла іх канфіскаваць. Але калі па іх прыехалі, высветлілася, што дваіх коней, ваўка, дзіка і курэй гаспадар вывез з горада і схаваў. Сабакаў і ваўчыцу адправілі на прадпрыемства «Фаўна горада». Пасля ваўчыцу перадалі ў Мінскі заапарк. Ёсць падазрэнне, што яна цяжарная. Адну з пяці канфіскаваных сабак — лайку, — як стала вядома, адшуквала сапраўдная гаспадыня, якая ўжо забрала яе дадому. Астатнія пакуль застаюцца ў вальерах «Фаўны горада».

Сядзіба аматара жывёл узятая пад кантроль, яго штодня правяраюць.

**«Мінск Навіны»**

## Папуляцыя кляшчоў у Беларусі за год павялічылася ўдвая

Паводле словаў загадчыка аддзела эпідэміялогіі Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Уладзіміра Пашковіча, росту папуляцыі спрыяе глабальнае пацяпленне. «У Беларусі усталяваліся мяккая зіма і ранняя вясна, сярэдняя тэмпература летась перавышала норму на 2,7 градуса, таму кляшчы добра захоўваюцца падчас зімовай спячкі, менш гінуць, а надвор’е спрыяе іх развіццю і размнажэнню», — сказаў Пашковіч.

За два месяцы гэтага года з прычыны ўкусаў кляшчоў да медыкаў звярнуліся прыблізна 2,3 тыс. чалавек, прыкладна 700 з іх — дзеці. Найбольшая колькасць зваротаў зафіксаваная ў Брэсцкай, Гродзенскай абласцях і ў Мінску.

Клешч жыве ў траве і пад лісцем, пры гэтым вышэй за метр па раслінах не падымаецца. Пік актыўнасці кляшчоў — вясна, калі тэмпература павышаецца да плюс 5°С, і восень.

Адказваючы на пытанні журналістаў, Пашковіч выказаў сумнеў у эфектыўнасці здачы на аналіз знятага з цела кляшча. «Здаваць кляшча на аналіз і чакаць выніку — гэта страта часу, — лічыць ён. — Больш плённа адразу пасля ўкусу за адзін раз прыняць дзве капсулы антыбіётыка, напрыклад даксіцыкліну, што забяспечвае поўную прафілактыку захворвання на Лайм-барэліёз».

Гаворка ідзе толькі пра дарослых, дзяцей да доктара трэба весці ў любым выпадку.

Што да энцэфаліту, то неабходна на працягу месяца пасля ўкусу назіраць за станам здароўя. «Калі павысілася тэмпература, пачало ліхаманіць — адразу ідзіце да доктара і кажыце, што вас пакусаў клешч», — рэкамендуе Пашковіч.

**БелаПАН**

**У суседзяў**

## Ва Украіне перайменавалі Днепрапятроўск

19 мая Вярхоўная Рада Украіны ў рамках дэкамунізацыі пераназвала горад Днепрапятроўск у горад Дняпро.

За адпаведную пастанову прагаласавалі 247 дэпутатаў з 445.

Да рэвалюцыі горад называўся Кацярынаслаў у гонар расійскай царыцы. Днепрапятроўскам ён стаў у 1926 годзе ў гонар рэвалюцыянера Пятроўскага.

Дняпром, скарочана, горад масава называлі самі жыхары.




**Прырода**

## Найстарэйшы ў свеце кулік-марадунка жыве ў Беларусі

Найстарэйшы ў свеце кулік-марадунка жыве ў Беларусі, паведамілі ў грамадскай арганізацыі «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ). Яго злавілі на станцыі кальцавання птушак у Тураве. На птушцы аказалася кольца 17-гадовай даўніны. Гэта робіць птушку самай старой у свеце марадункай. За сваё жыццё яна праляцела каля 200 тыс. км. Да гэтага вядомы максімум складаў 16 гадоў, птушку адзначалі ў Фінляндыі.



Гэтая марадунка была акальцаваная птушанём на лузе каля вёскі Запясочча 21 чэрвеня 1999 года. Куліка-марадунку на гнездаванні можна сустрэць ад Фінляндыі да Чукоткі. Зімуюць птушкі ва ўсходняй Афрыцы.

# Не трэба ператвараць Дзень Перамогі ў гулянні

Добры дзень, паважаная рэдакцыя «Нашай Нівы»!

Хачу выказацца наконт святкавання Дня Перамогі. У мяне абодва дзяды былі партызанамі, я сам прайшоў Афганістан. У савецкі час яшчэ былі жывыя ўдзельнікі вайны, яны маглі хадзіць, ездзіць. Тады было свята як свята. Збіраліся ветэраны, мне было цікава слухаць іх аповеды пра тыя гады. Тады гэта было насычана зусім іншым сэнсам.

Цяпер, калі ветэранаў засталося мала і яны ў большасці сваёй нават не могуць прайсціся па пакоі, ці не лепш было б проста наведаць гэтых паважаных людзей, прынесці невялічкія падарункі і павіншаваць? У кожным раёне ёсць работнікі сацыяльных службаў, райвыканкамаў, сельсаветаў. Яшчэ гэтыя абавязкі можа выконваць і школа. Заадно быў бы прыклад для маладых.

### У мяне абодва дзяды былі партызанамі, я сам прайшоў Афганістан

15 лютага кожны год на Востраве Слёз збіраецца мітынг памяці. Людзі прыходзяць аддаць даніну памяці тым, хто загінуў у Афганістане, — і ніякіх народных гулянняў.

Дзень Перамогі — гэта перш за ўсё дзень памяці. Хай у гэты дзень гучаць песні ваенных гадоў, хай будзе выхадны дзень. Трэба памінаць у храмах палеглых на той вайне, прынесці кветкі на магілкі, да помнікаў. А народныя гулянні хай будуць на Масленіцу, на Купалле, на Дзень горада. Народ зразумее, смецце адсеецца.

**Сяргей Ціханавец, хрысціянін, афганец, Бягомль (Докшыцкі раён, Віцебская вобласць)**

# Свята ў гета

Сёлета я пабываў на Дні Перамогі ў гарадскім парку. Дзясяткі міліцыянтаў «шманалі» народ, зазіралі ў сумкі, нават правяралі дзіцячыя вазкі. «Свята ў гета», — называю гэта я.

Папрасіў міліцыянта, каб мяне прапусцілі без нагляду.

— А ты што, руды? — сказаў ён.

— Не, я не руды і не рабы, але не хацеў бы, каб мяне праводзілі па спіне металашукальнікам і быць падазраваным.

Спецслужбы краіны ведаюць усіх яе жыхароў у твар. Вось яны і павінны забяспечваць да пачатку мерапрыемстваў правапарадак, каб не было інцыдэнтаў. А свята павінна быць радасным, вясёлым, без страху і недаверу тысячам сумленных людзей.

Так і чорныя амапаўцы не павінны азмрочваць футбольным заўзятарам уваход на стадыёны краіны. Бо хутка толькі яны і застануцца там гледачамі.

Мы жывём, я думаю, у свабоднай краіне, і баяцца свайго народа ўладам усіх узроўняў не трэба. Сталінскія часы даўно закончыліся.

**Аляксей Буцько, пенсіянер, Гродна**

# «Дубы» на Бярэзіне. Былі



Сумная навіна.

На рацэ Бярэзіна ля вёскі Прыцерпа ёсць цудоўнае месца, якое называюць проста — «Дубы».

Месца, дзе можна было адпачыць сям'ёй, парыбачыць, атрымаць асалоду ад прыроды, палюбавацца векавымі дубамі.

Толькі цяпер гэта месца стала недаступным для «простага смяротнага».

Хтосьці вырашыў абмежаваць доступ да ракі, лесу, дубоў.

Абгароджана велізарная тэрыторыя, высечаны лес, на месцы лясных сцежак пракладзены дарогі.

Наколькі вядома, гаспадарыць «Газпром»...

**Даслаў чытач Zaa**

# «На навабуд, узведзены на пустым месцы, павесілі шыльду пра XIX стагоддзе»

Праходзячы не так даўно па вуліцы Гарадскі Вал, што ў Мінску, на будынку па адрасе вул. Рэвалюцыйная, 17 заўважыў шыльду «Гісторыка-культурная каштоўнасць. Будынак другой паловы XIX ст.».



Між тым ранейшы будынак з гэтым адрасам быў знесены ў 2008 годзе без аніякіх дакументаў-дазволаў і быў размешчаны крыху далей па Рэвалюцыйнай.

Знайшоў у інтэрнэце з таго часу цікавыя словы «начальника управления по охране историко-культурного наследия и реставрации Министерства культуры Беларуси Игоря Чернявского» ў каментарах да экскурсіі Антона Астаповіча: «…Строительство же нового здания начато на ранее пустом месте по ул. Городской Вал. Действия в отношении здания по ул. Революционной, 17, осуществлены без разрешения Министерства культуры, которое предусмотрено Законом «об охране историко-культурного наследия». Этим фактом занимаются правоохранительные органы. Возможно, слишком медленно идет рассмотрение очевидного вопроса».



Вынікае, што на навабуд, узведзены на пустым месцы, павесілі шыльду пра «XIX стагоддзе» і «гісторыка-культурную каштоўнасць»? Няўжо гэта нармальная практыка?

**Даслаў чытач Мінчук, gmail.com**

# Чарнобыльскі шлях: расчаравалі і арганізатары, і міліцыя

Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Хачу падзяліцца сваімі ўражаннямі аб Чарнобыльскім шляху, які адбыўся ў сталіцы 26 красавіка. Калі сказаць коратка — расчараванне, боль, смутак.

Трагедыя трыццацігадовай даўніны і сёння крывавіць, баліць кожнаму беларусу. 26 красавіка — гэта дзень памяці пра тых, хто аддаў свае жыцці ў першыя дні змагання з нябачнай навалай — радыяцыяй. З болем у сэрцы — чаму ж такі малады памёр? — праводзім у апошні шлях сваіх родных, сяброў, знаёмых, якія ў працаздольным узросце пакінулі гэты свет пасля анкалагічных пакут.

А расчараванне было і застаецца ў душы самім Чарнобыльскім шляхам, дакладней яго арганізацыяй. Чым ён адрозніваўся ад шэсця на Дзень Волі ці на Дзяды ці ад іншых мерапрыемстваў, якія праводзілі апазіцыйныя лідары? Амаль нічым. Жалобы, смутку на гэтым шэсці не адчувалася. На маю думку, арганізатарам шэсця трэба было загадзя паклапаціцца аб тым, каб у час шэсця ў калоне гучна называлі імёны тых беларусаў, хто загінуў у першыя гадзіны, дні Чарнобыльскай катастрофы, агучваліся лічбы яе ахвяр, канкрэтныя прыклады яе наступстваў. Можна было б загадзя запісаць на адпаведную апаратуру ўрыўкі з «Чарнобыльскай малітвы» Святланы Алексіевіч і праз гукаўзмацняльнікі гэта трансляваць.

Лепш было б, каб удзельнікі шэсця ішлі з запаленымі свечкамі, ліхтарыкамі. У мяне склалася ўражанне, што арганізатары Чарнобыльскага шляху праводзяць яго дзеля «птушачкі».

Балюча мне было ў гэты дзень, калі ўбачыў дзеянні нашай міліцыі. З якога пярэпалаху міліцэйскія чыны вырашылі арганізаваць на канечным этапе шэсця асабісты вобшук удзельнікаў Чарнобыльскага шляху? Глупства. Відаць, тупеюць некаторыя міліцэйскія начальнікі за час службы. Не хочацца мне верыць у тое, што гэта была правакацыйная акцыя міліцыі, каб не дапусціць удзельнікаў Чарнобыльскага шляху да капліцы і правядзення там мітынгу. Калі гэта было так з іх боку, то дзеянні міліцыі можна назваць блюзнерствам у такі жалобны дзень.

Сумна і балюча за нашу дзяржаву, якая запамятавала, што яшчэ жывуць (на шчасце іх родных) ліквідатары гэтай жудаснай катастрофы. Абяздоленыя, прыніжаныя абыякавымі, хамскімі чыноўніцкімі адносінамі да іх асабіста, да іх подзвігу, — яны жывуць, нашы Народныя Героі, жывуць сціпла і не страцілі пачуцце годнасці. Яны маюць гонар! Ім не сорамна за тое, што 30 гадоў таму яны ахвяравалі сваім здароўем, каб хоць на трошкі зменшыць для астатніх людзей наступствы тэхнагеннай катастрофы. Сорамна павінна быць тым кіраўнікам краіны, хто прымаў рашэнні аб змяншэнні і нават скасаванні матэрыяльнай і грашовай дапамогі, зніжэнні статусу ліквідатараў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Чарнобыльскі шлях мае працягвацца. Гэты шлях наканаваны нам лёсам. І трэба усім нам маліцца Богу, каб ён адвёў ад нас патэнцыйную новую пагрозу нашаму здароўю і жыццю — Астравецкую.

**Міхась Спірыдовіч, Івянец (Валожынскі раён, Мінская вобласць)**

# Ці заплыве возера Нарач гноем?

Нацыянальны парк «Нарачанскі» быў створаны ўказам прэзідэнта ў 1999 годзе.

І што ж задумала тут цяпер ТАА «Нарачанская ніва 2004»? Пабудову кароўнікаў, аж на 3600 галоў!

29 красавіка адбыліся першыя грамадскія слуханні, 13 мая — другія.

Прыватнік разлічвае, што ўсё пройдзе ціха, без шуму і пылу! Прывёз свой бізнэс-план, мінуючы камісію Мядзельскага раёна, аж у аблвыканкам.

Між тым супраць такой ідэі выступаюць і жыхары пасёлка Нарач, і прадпрымальнікі, і служачыя. Вось толькі ідэолагі раёна маўчаць, хоць павінны былі б устаць на бок грамадскасці.

**Алесь Таўстыка, ураджэнец Мядзельскага раёна, жыве ў Мінску**

## Ад сэрца

### Малітва за Беларусь да Бога

У імя Айца, і Сына, і Духа Святога Амінь.

Усёмагутны Божа, выслухай мяне. Прашу цябе, глянь на пакутную Беларусь. Божа, заступіся за нас, грэшных беларусаў, бо ў меншасці засталіся мы на сваёй Радзіме, і роднага слова не чуем мы ўжо. Прашу, Божа, прабачэння ў цябе за сябе, за беларусаў, што жывуць на гэтай зямлі, і за продкаў, якія жылі на гэтай зямлі, мусіць, моцна перад Табою зграшылі мы.

Святыя заступнікі беларускага народа, Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Язафат Кунцэвіч, Эдуард Вайніловіч і ўсе Святыя, маліцеся за нас, грэшных, да Усёмагутнага Бога, каб нам на зямлі сумленна і годна пражыць у Божай ласцы і вярнуцца на Нябесную Радзіму ў Святой цішыні. Амінь!

**Адам Сарокін, Мінск**

## Дзякуй фундатарам

Дзякуй за чарговае шчодрае ахвяраванне пастаяннаму фундатару «Нашай Нівы» Паўлу К. з Мінска.

Дзякуем за ахвяраванні на выхад NN.BY/«Нашай Нівы» таксама: М-х А.В., Б-ка Н.М., Л-рову А.Г., Насці Насцкінай, Пан город век, Рэз-віч І.Н. Жд-вай, Сін-скай Т.В., Ш-ка А.Н., Ан-н І.М., Андрэю В., Ю.Ю.

Дзякуем таксама нашаму сталаму чытачу і каментатару Міколу Р. з Антверпена (Бельгія) за прывезеныя ім гасцінцы журналістам «НН»: каву, цукеркі і іншую смакату.

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

# Серыйнага забойцу з Гомеля расстраляюць

Ён забіваў жанчын, з якімі разам рабіў.

19 мая Гомельскі абласны суд прысудзіў да расстрэлу жыхара Гомеля Сяргея Вострыкава.

Мужчына 1982 года нараджэння абвінавачваўся адразу па некалькіх артыкулах Крымінальнага кодэкса. Самыя цяжкія сярод іх — згвалтаванне і забойства, здзейсненае з асаблівай жорсткасцю.

Слуханне рэзананснай справы праходзіла ў закрытым рэжыме.

Вострыкаў падманным шляхам заваблівАў ахвяр у свой аўтамабіль, адвозіў у гараж, гвалтаваў і забіваў. Целы жанчын ён вывозіў у лес і закопваў.

Першай ахвярай маньяка стала яго калега, 25-гадовая Алеся Панцялеева, яна была забітая ў ліпені 2014 года.

Амаль праз год пры такіх жа абставінах знікла 27-гадовая Аляўціна Машурыкава. Яна таксама працавала на адным прадпрыемстве з абвінавачаным.

Жанчына а 6-й выехала на работу і знікла. Яе тэлефон стаў недасяжны.


Сяргей Вострыкаў.

Праваахоўныя органы вызначылі аўтамабіль, на якім ехала Машурыкава. Падазраваным аказаўся судзімы за разбой і вызвалены датэрміноВа 33-гадовы гамяльчук. Жанчынам-калегам ён прапаноўваў падвезці на працу на асабістым аўтамабілі.

У Сяргея Вострыкава ёсць жонка і трохгадовае дзіця.

Абарона прысуджанага да расстрэлу гамельчука мае намер абскардзіць рашэнне суда, паведаміў адвакат Віктар Шландыкаў.

Адвакат таксама заявіў журналістам, што прасіў для падабароннага 25 гадоў пазбаўлення волі. Пры гэтым ён адзначыў, што не разумее матываў забойстваў: «Не магу зразумець, чаму гэта адбылося. Мой падабаронны на судзе проста разводзіў рукамі. У яго ўсюды станоўчыя характарыстыкі. Экспертыза прызнала яго здаровым і адэкватным. На судзе ў якасці сведкі выступіў псіхолаг, які лічыць, што мой падабаронны раскаяўся. Абвінавачванні ён прызнаў, прабачэння прасіў увесь час».

Бацька Аляўціны Машурыкавай лічыць прысуд справядлівым. «Выродак атрымаў сваё. Больш мне сказаць няма чаго, кампенсацыі матэрыяльнай шкоды я не прасіў. Дзіця не вернеш», — сказаў ён журналістам пасля абвяшчэння прысуду.

Бабуля ахвяры таксама лічыць, што абвінавачаны заслужыў смяротнае пакаранне: «Ён парушыў усе артыкулы, усе законы — і чалавечыя, і Божыя: не скрадзі, не забі, не пажадай чужога. Ён павінен быць расстраляны. Іншага ён не заслугоўвае».

Муж забітай таксама згодзен з прысудам. Паводле яго слоў, абвінавачаны на судзе «паводзіў сябе спакойна і адэкватна». У апошнім слове папрасіў прабачэння ў сваякоў забітых.

«За што? Вось на гэтае пытанне ён не даў адказу нікому. З маёй жонкай ён працаваў на прадпрыемстве разам чатыры гады. І калегі таксама не маглі паверыць, што ён такое зрабіў», — сказаў муж загінулай.

Бацькі Алесі Панцялеевай ад размоваў з прэсай адмовіліся.

Гэта ўжо трэці смяротны прысуд, вынесены ў Беларусі ад пачатку 2016 года. У студзені да найвышэйшай меры пакарання быў прысуджаны жыхар Вілейкі Генадзь Якавіцкі, прызнаны вінаватым у забойстве з асаблівай жорсткасцю, у лютым — жыхар Мінскага раёна Сяргей Хмялеўскі, абвінавачаны ў забойстве трох чалавек.

**Алена Германовіч, Naviny.by**

## Кіроўцы ўратавалі людзей з «Опеля», які патануў у меліярацыйным канале

У Пінскім раёне кіроўцы выратавалі людзей з «Опеля», які тануў у меліярацыйным канале, паведамілі ва УДАІ УУС Брэсцкага аблвыканкама. Аварыя адбылася 21 мая ў 14.30 недалёка ад вёскі Беразцы. Рыбакі з Мінскай вобласці вярталіся дадому. Паводле папярэдняй інфармацыі, 65-гадовы кіроўца аўтамабіля «Опель Астра», няправільна выбраўшы хуткасць руху, не даў рады кіраванню аўтамабіля, які з'ехаў у кювет і перакуліўся ў меліярацыйны канал.

Трагедыі не адбылося дзякуючы іншым удзельнікам дарожнага руху, якія ў гэты момант праязджалі міма: яны скокнулі ў ваду, разбілі шкло «Опеля» і дапамаглі выбрацца ўсім, хто быў у аўтамабілі. Праз тры гадзіны пасля аварыі 50-гадовы пасажыр быў шпіталізаваны ў аддзяленне анестэзіялогіі і рэанімацыі Пінскай ЦБ з дыягназам «закрытая чэрапна-мазгавая траўма, стан пасля страты прытомнасці».

## Пацыент бальніцы выкінуўся з акна

У Гродне мужчына выскачыў з палаты на восьмым паверсе.

Следчы камітэт расследуе смерць 41-гадовага мужчыны. Яго цела знайшлі вечарам 20 мая пад вокнамі гродзенскай бальніцы хуткай дапамогі.

Мужчыну ў той самы дзень прывезлі на лекаванне ў траўматалогію і паклалі ў палату на 8-м паверсе. Зараз следчыя будуць апытваць сяброў і родных, чытаць медыцынскія справы.

**УШ**

## Не скраў, але ж...

Пенсіянера, які падабраў згубленыя грошы, абвінавачваюць у крадзяжы.

У Новалукомлі затрыманы 67-гадовы мужчына, які ў аддзяленні банка падабраў 200 даляраў, упушчаных жанчынай, якая стаяла перад ім.

З заявай аб знікненні валюты ў міліцыю звярнулася 76-гадовая жыхарка Новалукомля. Раніцай 16 мая жанчына пайшла ў банк, каб купіць даляры. Пры пераліку валюты яна не заўважыла, як упусціла частку грошай. Выявіўшы нястачу ў 200 даляраў, пенсіянерка адразу ж звярнулася да работнікаў банка.

Вылічыць чалавека, які падабраў купюры, міліцыі ўдалося з дапамогай вывучэння запісу з камер відэаназірання, усталяваных у памяшканні банка.

Як высветлілася, у чарзе за пенсіянеркай стаяў мужчына, які заўважыў грошы, падабраў іх і адразу выйшаў, паведамляе сайт УУС Віцебскага аблвыканкама са спасылкай на намесніка начальніка Чашніцкага РАУС Андрэя Любезнага.

У той жа дзень па прыкметах міліцыянтамі быў затрыманы 67-гадовы мясцовы жыхар. Пенсіянер прыйшоў у аддзяленне іншага банка, каб абмяняць даляры на беларускія рублі. Па дадзеным факце распачатая крымінальная справа за крадзеж, а гэта значыць, што мужчыну пагражае да 3 гадоў.

**УШ**

## Бабуля знайшла ва ўнука пакецік з наркотыкам

У Чашніках бабуля знайшла ва ўнука кулёк з невядомым на той момант для яе змесцівам. Падумала яна, што нашчадак ужывае наркотык, і звярнулася ў міліцыю.

Як аказалася, пакуначак з «зеллем» хлопец знайшоў каля аднаго з дамоў у раённым цэнтры і прынёс дадому. Невядома, які канец быў бы ў гэтай гісторыі, калі б не баба...

Суд прызнаў хлопца вінаватым у тым, што ён незаконна, але без мэты збываць, захоўваў наркатычныя сродкі. Яму далі 2 гады за дтэрміноўкай пакарання на год. Акрамя таго, юнак сплаціць 8 мільёнаў 400 тысяч рублёў за судовыя выдаткі.

**УШ**

## Двухгадовае дзіця вывалілася з акна

Малога заўважылі людзі ў двары. Ён ляжаў каля дома і крычаў.

Як аказалася, хлопчык двух з паловай гадоў вываліўся з восьмага паверха шматпавярхоўкі на вуліцы Луцкай у Брэсце. Мама ў гэты момант была дома, а ў пакоі, дзе гуляў малы, было зачынена акно.

Хлопчык жа ўзлез на дзіцячае крэсла, з яго — на падаконне і адкрыў шклопакет, расказала Марына Драньковa, афіцыйная прадстаўніца Следчага камітэта па Брэсцкай вобласці.

На жаль, выратаваць дзіця дактарам не ўдалося.

**УШ**

## Гарэў «Беларуськалій»

Ноччу 22 мая згарэў склад №6 прампляцоўкі 1-га рудаўпраўлення ААТ «Беларуськалій».

Агонь заўважылі каля паловы на другую ночы. Выклікалі МНС: з агнём змагаліся 69 чалавек і 23 адзінкі тэхнікі. Загасілі пажар толькі каля 5-й гадзіны раніцы.

У будынку склада захоўваўся грануляваны канцэнтрат (мінеральнае ўгнаенне, хларыд калію).

**УШ**

## А яна яму так верыла...

З дзяўчынай гэты суб'ект пазнаёміўся на карпаратыве транспартнай кампаніі, дзе абое рабілі. Завязаліся адносіны. Дзяўчына кахала яго настолькі шчыра, што гатовая была на ўсё. Ён тое адчуў.

Спачатку гэты 24-гадовы кавалер наплёў ёй, што мае судзімасць, і, каб яе пагасіць, трэба 4 тысячы даляраў.

Пазней былі гісторыі пра тое, што ён мае патрэбу ў лячэнні ад наркаманіі; пасварыўся з бацькамі і жыць яму няма дзе; нарэшце, бацькі «патрапілі ў аўтакатастрофу» і неабходныя грошы на пахаванне (пры жывых бацьках!) і так далей.

Агулам дзяўчына перадала ашуканцу каля 10 тысяч даляраў! Толькі праз некаторы час закаханая зразумела, што стала ахвярай не глыбокіх пачуццяў, а падману. Аказалася, круцель паралельна падманваў і іншых сваіх калег, афармляў на іх імёны крэдыты на мабільныя тэлефоны і бытавую тэхніку, пазычаў грошы.



Заведзеная крымінальная справа за махлярства, мужчыну пагражае турма да 10 гадоў.

Дарэчы, раней ён быў судзімы за захоўванне псіхатропных рэчываў і махлярства.

**УШ**

## Сцісла

### А дзяўчынкі не вернеш

У аварыі пад Клецкам сутыкнуліся «Форд» і «Мазда». У выніку загінула 10-гадовая дзяўчынка з «Мазды». Дарослыя — 7 чалавек — шпіталізаваныя.

### От табе і аўтаслесар

30-гадовы аўтаслесар адной з мінскіх СТА скраў з касы свайго прадпрыемства 55 мільёнаў рублёў. Высветлілася, што ў мужчыны гульнявая залежнасць. Усе грошы ён прайграў на аўтаматах. Цяпер яму пагражае да 3 гадоў.

### Згарэлі маці і сын

9-гадовае хлапчаня і яго 43-гадовая маці згарэлі 17 мая ў вёсцы Цеснавая, што пад Налібацкай пушчай. Мусіць, ад таго, што нехта курыў у пасцелі.

### 72-гадовая «калектарка»

Пад Навагрудкам 72-гадовая пенсіянерка падпаліла дом сваёй 65-гадовай суседкі, якая не хацела аддаваць пазыку. Дом не згарэў цалкам толькі дзякуючы трэцяй суседцы, якая пабачыла дым і выклікала пажарных. Распачалі крымінальную справу, бабулі пагражае да 10 гадоў.

**УШ**

# Нервовыя клеткі аднаўляюцца, гіпноз бывае толькі па жаданні, 25-ы кадр не дзейнічае…

Топ-10 антынавуковых міфаў ад рэдактара навукова-папулярнага рэсурсу Easy Science Віктара Шаленчанкі.



**Віктар Шаленчанка**

Нар. у 1990 у Добрушы. Рэдактар навукова-папулярнага рэсурсу Easy Science і лектар праекта «Курылка Гутэнберга» (на фота).

**«Наша Ніва»: Віктар, чаму сёння адбываецца ўздым цікавасці да папулярнай навукі?**

**Віктар Шаленчанка:** Пэўны час папулярная навука ў нашым рэгіёне была ў крызісе. Вы ведаеце пра піраміду Маслаў? Дык вось, калі ў цябе няма хлеба, пытанні навукі неяк адсоўваюцца на другі план. Нельга казаць, што ў нас цяпер добрае эканамічнае становішча, але ў параўнанні з 1990-мі ўсё ж лепшае. Інтэрнэт і іншыя сродкі камунікацыі сталі даступнымі, і цікавасць людзей да навукі праз гэта вырасла. Мы сёння можам бачыць шмат рэсурсаў, суполак у сацыяльных сетках і каналаў на *YouTube*, якія займаюцца папулярызацыяй навукі і маюць мільёны падпісантаў. Гэта цікава і гэта модна.

**«НН»: Але навошта займацца папулярызацыяй навукі? Большасць людзей у любым выпадку ніколі не будзе займацца навукай у сваім жыцці. Няўжо школьных ведаў недастаткова?**

**ВШ:** Так, вы маеце рацыю. Навукай займаюцца адзінкі. Але пра навуку варта ведаць усім, нават калі вы ёй прафесійна не займаецеся. Бо навука — гэта ўсё, што нас атачае. Нават самыя простыя бытавыя рэчы з'явіліся ў выніку навуковай дзейнасці. Не абавязкова кожнаму ведаць нейкія складаныя формулы альбо методыкі, але кожнаму цікава і карысна ведаць нейкія практычныя побытавыя рэчы.

Што тычыцца фармальнай адукацыі, то яе, на жаль, недастаткова для папулярызацыі навукі. Фармальная і нефармальная адукацыя тут павінны працаваць разам.

**«НН»: У Савецкім Саюзе папулярная навука прапагандавалася, пры гэтым царква была ў няласцы. У 1990-я царква пачала адраджацца, а папулярная навука была ў заняпадзе. Як Вы лічыце, рэлігія і навука супярэчаць адна адной?**

**ВШ:** Я атэіст. Але я веру, што рэлігія і навука могуць спакойна суіснаваць. Сённяшні сусветны цэнтр навукі — ЗША, даволі рэлігійная краіна. Ёсць прыклады навукоўцаў, якія нармальна сумяшчаюць сваю дзейнасць з верай у Бога. Галоўнае, каб рэлігія не выходзіла за акрэсленыя межы і не ўплывала на навуку. Суіснаванне магчымае, але не трэба рэлігію і навуку змешваць у адно.

**«НН»: Папулярная навука — гэта масавая з'ява. І ў навукова-папулярных выданнях усё ж больш журналістыкі, чым навукі. Дзе гарантыя таго, што інфармацыя там адпавядае рэчаіснасці?**

**ВШ:** 100% гарантыі ніхто не зможа даць. Скажу больш, што нават навукоўцы — гэта не нейкая найвышэйшая каста людзей, нават яны могуць памыляцца. Я ўжо не кажу пра звычайных папулярызатараў навукі. Бо ў гэтым і ёсць асноўная ідэя навукі: мысліць крытычна, правяраць тэорыі і не баяцца іх абвяргаць, калі яны няправільныя.

Але што тычыцца аўтарытэту крыніц, то цяпер не праблема спраўдзіць з дапамогай *Google* тую ці іншую інфармацыю. І пажадана карыстацца англамоўнымі крыніцамі.

**«НН»: Існуе шмат антынавуковых міфаў і забабонаў. Папулярызатары навукі імкнуцца іх абвергнуць. Маглі б вы скласці топ-10 самых абсурдных антынавуковых міфаў, якія існуюць у грамадстве?**

**ВШ:** Добра.

**1. Першы пункт — астралогія/нумералогія.** Тут усё даволі проста. Нават калі ўявіць, што пазіцыі планет і зорак тэарэтычна могуць хоць неяк уплываць на лёс чалавека, то гэтыя пазіцыі на зорным небе кожны раз змяняюцца. Базавыя прынцыпы астралогіі не змяняліся амаль два тысячагоддзі, а пазіцыі нябесных цел ужо не тыя. Да таго ж ёсць «заходняя» астралогія, ёсць «індыйская», «кітайская», астралогія мая і іншыя. І яны проста супярэчаць адна адной.

Што тычыцца нумералогіі — тут яшчэ прасцей. Кожную хвіліну нараджаецца 250 немаўлят. Няўжо ўсе яны будуць мець аднолькавы лёс? І які час нараджэння мы лічым: сонечны час, сусветны час, зорны альбо мясцовы час?

**2. «Нервовыя клеткі не аднаўляюцца»** — знаёмы выраз з дзяцінства. На самай справе гэта міф, навукоўцы яшчэ ў 1995 годзе даказалі, што яны аднаўляюцца.

**3. Метэоры не гарачыя.** У галівудскіх фільмах мы звыкліся бачыць метэоры як палаючыя агнявыя шары. На самай справе метэоры падаюць на Зямлю часцей за ўсё халоднымі. Таму калі вы пабачылі метэор, які толькі што ўпаў, не дакранайцеся да яго — можаце атрымаць халадовую траўму.

**4. Маланка не б'е некалькі разоў у адно месца** — міф! Маланка б'е туды, дзе найменшае электрычнае супраціўленне. А яно амаль не змяняецца.

5. Некалькі гадоў таму ў Расіі выйшла **псеўданавуковая стужка «Вада»**. На жаль, фільм зняты на даволі прафесійным узроўні, і шмат людзей сапраўды паверылі асноўнай ідэі гэтага фільма: нібыта ў вады ёсць памяць і яна мае нейкія ўнікальныя ўласцівасці. Насамрэч стужка абсалютна антынавуковая, утрымлівае ў сабе вялікую колькасць глупстваў. Напрыклад, аўтары сцвярджаюць, што вада існуе толькі на Зямлі. На самай справе, на Тытане, спадарожніку Сатурна, вада пакрывае палову паверхні. Альбо іншая заява аўтараў, нібыта вада — адзінае рэчыва на Зямлі, якое можа знаходзіцца ў трох агрэгатных станах. Толькі неадукаваны чалавек мог зняць такую стужку.

6. Можна пачуць меркаванне, што **егіпецкія піраміды пабудавалі іншапланецяне**. Маўляў, яны настолькі складаныя канструкцыі, што нават з самай сучаснай тэхнікай немагчыма пабудаваць нічога падобнага. Тым больш не маглі такое пабудаваць старажытныя егіпцяне.

На самай справе, егіпецкія піраміды — даволі нязграбныя і прымітыўныя для нашага часу пабудовы. Так, старажытным егіпцянам было не так проста такое пабудаваць без кранаў і іншых сучасных машын, але цалкам магчыма. Без праблем можна і цяпер пабудаваць падобныя піраміды з выкарыстаннем сучаснай тэхнікі — проста гэта нікому не патрэбна.

**7. «Эфект 25-га кадра» — хлусня.** Насамрэч, дадатковы кадр з іншароднай інфармацыяй ніяк не можа ўплываць на падсвядомасць чалавека. Яшчэ ў 1962 аўтар дадзенай «методыкі» Джэймс Вайкеры прызнаў, што вынікі эксперыментаў, якія нібыта пацвярджалі наяўнасць такога ўздзеяння, — сфабрыкаваная фальшыўка.

**8. «Цыганскі» гіпноз.** Такі тэрмін можна пабачыць нават у міліцэйскіх зводках.

Гіпноз на самай справе існуе, але не ў той форме, у якой яго паказваюць у мастацкіх фільмах. Стан гіпнозу не падобны да сну, і загіпнатызаваць чалавека насуперак яго волі немагчыма. Гіпноз не можа прымусіць людзей рабіць нешта звышнатуральнае, людзі захоўваюць магчымасць супраціўляцца ўнушэнню. І, самае галоўнае, нават пры жаданні самога чалавека далёка не кожны паддаецца гіпнозу.

**9. Ці сапраўды былі амерыканцы на Месяцы?** Канспіролагі сцвярджаюць, што амерыканцаў там не было, а ўсю кінахроніку пра палёт знялі ў павільёнах Галівуда. Што самае цікавае, гэтая тэорыя з'явілася не ў Расіі, а ў ЗША.

Насамрэч, паміж СССР і ЗША была сур'ёзная касмічная гонка. І калі б у СССР былі хаця б нейкія сумненні ў палёце амерыканцаў на Месяц, іх абавязкова афармілі б у выглядзе доказаў і выкарысталі.

**10. Прадуктовыя дадаткі.** Супраць іх развязалася сапраўдная інфармацыйная вайна. На самай справе карысць ад харчовых дадаткаў значна перавышае магчымую шкоду ад іх ужывання. Напрыклад, нітрыт натрыю Е-250 выкарыстоўваецца як антыбактэрыяльны агент супраць узбуджальніка батулізму. Гэта цяжкае захворванне, якое было раней вельмі распаўсюджанае і ўзнікала пасля ўжывання кансерваў.

Больш высокая імавернасць атруціцца звычайнай соллю, чым якім-небудзь глутаматам натрыю.

Вы можаце адмовіцца ад прадуктовых дадаткаў, але гэта адмаўленне ад прагрэсу і вяртанне да тых часоў, калі сярэдняя працягласць жыцця была каля 40 гадоў.

**Гутарыў Максім Маханькоў**

Гістарычная дыскусія ў «Краўн-плазе» ператварылася ў гарачае ток-шоу. Піша **Паўліна Купрысь**.

# Хто з нас Еўропа

13 мая ў Мінску адбылася гарачая дыскусія «Нацыі і дзяржавы Усходняй Еўропы — перспектыва 2026». Яна была адной з падзей канферэнцыі «Нацыя падчас крызісу», якую ладзіў Інстытут «Палітычная сфера».

Выказацца пра нашу найбліжэйшую будучыню запрасілі даследчыкаў з чатырох краін: Аляксея Мілера з Расіі, Георгія Касьянава з Украіны, Альфрэдаса Бумблаўскаса з Літвы, а Беларусь прадстаўляў палітолаг Андрэй Казакевіч, арганізатар сустрэчы. Мадэраваў дыскусію беларускі філосаф, рэдактар *Arche* Валер Булгакаў.

У залу «Прынцэс ІІ» гатэля «Краўн-плаза» набілася поўна ахвотных паслухаць спрэчку. У час дыскусіі атмасфера не раз змянялася ад эйфарыі да роспачы, а нават і гневу. І яўна бракавала пультаў для ацэнкі прамоў, як ва ўкраінскіх перадачах Савіка Шустэра.

### Расія не Еўропа — гэта і ёсць крызіс

Ва ўступным слове ўдзельнікам прапанавалася каротка выказацца пра будучыню Усходняй Еўропы. Пачалі з расійскага погляду, які трансляваў Аляксей Мілер: Еўрасаюз перастаў быць суб'ектам геапалітыкі, замест яго цяпер дзейнічае НАТА, і напружанасць у адносінах з Расіяй пастаянна расце (але спосабаў разрадкі, як у часы халоднай вайны, ужо не існуе). У 2000-я Расія зразумела, што яна не Еўропа, і цяпер спрабуе зразумець, хто ж яна.

Кітай паступова становіцца адзіным сябрам Расіі. Расія перастала баяцца, яны з Кітаем навучыліся цаніць адно аднаго. Апошняе заключэнне Мілера выклікала пытанні, а найбольш напружылася зала, калі Мілер зазначыў: «Ідэя, што ЕС — рашэнне праблем, павінна сыходзіць, бо ЕС сам стае праблемай». Усміхаўся ў гэты момант хіба Андрэй Казакевіч. Ён, як выявілася неўзабаве, меў што адказаць.

### Перамога грамадзянскай супольнасці

Наступным слова атрымаў украінскі гісторык Георгій Касьянаў, які адразу папярэдзіў: «Мне цяжка аб'ектыўна казаць пра Расію, але паспрабую». На яго думку, цяпер найбольшая пагроза для самой Расіі — знікненне грамадзянскай супольнасці.

У той жа час даследчык мяркуе, што Расія не можа быць дэмакратычнай дзяржавай: яна ў той ці іншай форме заўжды будзе аўтарытарнай. Што тычыцца Кітая, то ён блізкі Расіі па кіраўнічых структурах, але эканамічна Расія будзе ўвесь час прайграваць яму.

ЕС у крызісе, але, вядома, зусім не знікае, не згадзіўся Касьянаў з папярэднім выступоўцам. А вось Украіна для ЕС — чамадан без ручкі: цяжка дапамагаць такой вялікай краіне, у якой шмат праблем не толькі знешніх (дзякуй нашым усходнім суседзям, кіўнуў Касьянаў у бок Мілера), але і ўнутраных. «У мяне дзякуючы ў 2006 годам — за выключэннем сітуацыі з грамадзянскай супольнасцю. Сёння ва Украіне ёсць грамадзянская супольнасць і формы грамадскай самаарганізацыі. І ў гэтым ёсць элемент надзеі». На жаль, ЕС хоча працаваць толькі з дзяржаўнымі інстытутамі, а не з грамадзянскай супольнасцю, якая для іх — адзіная надзея, пашкадаваў Касьянаў.

### Хто даў Беларусі Гродна

Сурова пачаў свой выступ літоўскі гісторык Альфрэдас Бумблаўскас: «Увогуле, я не разумею, пра што мы гаворым, калі кажам пра нацыю як пра гульца на палітычным полі». Нацыя — не гульнявая катэгорыя, а сацыялагічная і нават каштоўнасная. «Мы, літоўцы, ведаем «рускі свет» у Калінінградскай вобласці. Паглядзіце, што вы зрабілі з бліскучай нямецкай цывілізацыяй! Крызіс пачаўся ў 2015-м годзе, калі не стала даверу да Расіі — да таго мы верылі, што Расія мае нейкі цывілізаваны варыянт развіцця. А з 2015-га Расія стала не з Еўропай, як адзначыў спадар Мілер. Гэта і ёсць крызіс, пра гэта мы павінны думаць».

У такой сітуацыі аптымісты ў геапалітыцы, аптымісты ў адносінах да Расіі, такія як Ежы Гедройць і іншыя вялікія асобы, сталі маргіналамі, зазначыў літовец: «Увогуле, Гедройць — геніяльны чалавек, змог кардынальна змяніць замежную палітыку Польшчы. Я кажу, што мы ў Літве павінны паставіць залаты помнік Ежы Гедройцю, і кожны дзень кожны літовец павінен цалаваць руку яму: дзякуючы яму Польшча не стала выстаўляць прэтэнзіі на Вільню, Львоў і Гродна».

Бумблаўскас мяркуе, што «вялікая расійская культура» — культура пяцідзесяці гадоў, ад Аляксандра ІІ да Сталыпіна, а потым пачынаецца сталінскі міф. Расія ішла заходнім шляхам, але ўсё сцёр бальшавізм: «Дастаеўскі ў «Д'яблах» спрагназаваў з'яўленне бальшавікоў — чаму ніхто не прачытаў?!»

Беларусь і Украіну даследчык адносіць да заходняга свету: яны не знаходзіліся ў заходняй цывілізацыі толькі апошнія сто гадоў, лічыць ён.

Мяжу паміж Літвой і Беларуссю Бумблаўскас назваў «самай дурацкай» і самай доўгай у Еўропе — 682 кіламетры: «Мы маем мяжу не па калгасах, а па брыгадах калгасных! Гэта сталінскі калгас, сталінскія межы».

### Расія Еўрасаюзу не канкурэнт

Завяршаў першае кола выступаў беларускі палітолаг Андрэй Казакевіч. Ягоны выступ не быў такім экспрэсіўным, як папярэднія. Прамову суправаджалі ілюстрацыі з дыяграмамі. Казакевіч адзначыў, што Усходняя Еўропа была цэнтрам сусветнай гісторыі ўсё ХХ стагоддзе і толькі цяпер рэгіён ператварыўся ў перыферыю. Хто ж цэнтр? ЕС — зона палітычных і эканамічных уплываў. Працівагу, нейкага рэальнага канкурэнта ЕС знайсці цяжка.

Расія такой працівагай яўна не стане: Беларусь — адзіная краіна Усходняй Еўропы, у якой Расія з'яўляецца асноўным гандлёвым партнёрам. Для іншых краін рэгіёну пытання не стаіць: ЕС даўно і стабільна займае першае месца ў гандлі з імі.

З шасці краін Усходняй Еўропы Расія мае канфлікт з трыма (з Украінай і Грузіяй — вострыя, з Малдовай — замарожаны), а да таго ж — нейтральныя адносіны з Азербайджанам, якія таксама балансуюць на мяжы, бо Расія падтрымлівае Арменію ў канфлікце дзвюх краін.

Адзіныя партнёры Расіі ў рэгіёне — Беларусь і Арменія, але і гэтага мала, каб канкураваць з ЕС эканамічна, а з ЗША палітычна і ў сферы вайсковага супрацоўніцтва.

### «Была такая дзяржава — Літва. Мільгала…»

Пасля адмыслова правакатыўнага падсумавання мадэратара Валера Булгакава (выказванні Мілера былі ахарактарызаваныя як прапагандысцкія, Касьянава — як песімістычныя, Бумблаўскаса — як аптымістычныя) выступоўцы атрымалі магчымасць адказаць мадэратару і адзін аднаму. Выступалі ў ранейшым парадку.

Паблажлівасць у прамове Аляксея Мілера змянілася на раздражнёнасць (ці позу раздражнёнасці). ЕС вычарпаў палітыку мяккай сілы, настойваў ён. Адказваў апанентам, спярша Бумблаўскасу: «Была такая дзяржава — Літва. Мільгала. Дык можа мільгнуць ізноў» — у зале запанавала напружаная цішыня. Выказванню ў стылі Дзмітрыя Кісялёва ад запрошанага расійскага прафесара не чакалі.

Наконт перспектыў Беларусі Мілер пракаментаваў: «Інтэгруйцеся ў ЕС, але глядзіце, што цяпер адбываецца ва Украіне. Украіна выходзіць з шэрагу індустрыяльных дзяржаў. І наяўнасць грамадскай супольнасці ёй не дапамагла, калі пачалася зона АТА! Так што давайце прачнёмся і пагаворым пра рэальныя рэчы».

«Ты так крычыш, каб мы прачнуліся, ці што?» — з'іранізаваў Касьянаў.

«Успомніце, што такое жорсткая сіла», — скончыў Мілер.

«Так, на жаль, некаторыя краіны, калі адчуваюць, што прайграюць эканамічна, пачынаюць рэалізоўваць сябе там, дзе могуць — у ваеннай сіле», — адказаў Касьянаў.

У выпадку Расіі ўнутраная палітыка стала працягам замежнай. Перад Украінай сапраўды стаіць небяспека дэіндустрыялізацыі: гублюцца сектары эканомікі і разам з імі тэхнічная інтэлігенцыя. Украіна ператвараецца ў пастаўшчыка сыравіны. Гэта праблема можа быць вырашана толькі знутры і толькі пры наяўнасці палітычнай волі.

«Улюбёны тэзіс спадара Мілера — што наша грамадзянская супольнасць працуе на забойства. Насамрэч, грамадзянская супольнасць працуе не толькі на зону АТА, яна вельмі шырокая. І гэта адзінае жывое, што засталося. Палітыкі Украіны — трупы. Трэба працаваць з грамадзянскай супольнасцю і праз яе ўплываць на палітыку. Калі нехта хоча дапамагчы Украіне, дапамагайце грамадзянскай супольнасці, там ёсць яшчэ шанец», — скончыў выступ Касьянаў.

### «А Амерыка большая!»

Мікрафон зноў узяў Мілер. Ён пашкадаваў, што эканоміка стала залежаць ад палітыкі, што «баданне» (па словах Мілера), якое цяпер адбываецца ва Усходняй Еўропе, — гэта толькі перашкода эканамічным адносінам Расіі і Еўропы. А праекты Кітая, у прыватнасці «Шаўковы шлях» з Кітая ў Фінляндыю, — прыклад таго, як працуе эканоміка. Эканоміка, на думку даследчыка, «і ёсць той шанец, калі ўсё гэтае «баданне», усе гэтыя размовы пра «пяцьдзясят гадоў рускай культуры» і гэтак далей, уся гэтая дробязь, тое што ёсць агіднага ў гэтым рэгіёне, беднасць і ўбоства ўсходнееўрапейскіх нацый — можа быць, гэта будзе пераадолена».

У адказ Альфрэд Бумблаўскас у ролях пераказаў гісторыю, што здарылася з літоўскім парламентарыем Эмануэлісам Зінгерысам. На нейкім форуме Зінгерыс сядзеў паміж расійскімі палітыкамі «Зірыноўскім» і Зюганавым. Тыя зранку прыйшлі з пахмелля, і Жырыноўскі кажа: «Далучайцеся да нас, мы вялікія». А яўрэйскага паходжання Зінгерыс адказвае: «А Амерыка большая!»

«Нам важныя не толькі межы, але і тое, што яны падзяляюць. Я не супраць Расіі, але я лічу, што Расія — асобная цывілізацыя. Калі гэта так, то з ёй трэба размаўляць асобнай мовай, так, як Еўропа размаўляе з Індыяй, Кітаем і ісламскім светам. І трэба толькі рашыць, з кім мы, хлопцы. З канцом шаўковай дарогі ля Фінляндыі?» — эмацыйна выступаў Бумблаўскас.

Пушкін, Дастаеўскі, Талстой — гэта тая еўрапейская Расія, якую мы любім, адзначыў ён.

— Пушкін жа не ўпісваецца ў пяцьдзясят гадоў, у час паміж Аляксандрам ІІ і Сталыпіным, — упікнулі з залы дакладчыка.

— Не мелочітесь, ребята! Пушкін — гэта асобная размова.

— Ён увогуле не расійская, а афрыканская цывілізацыя, — пажартаваў Аляксей Мілер.

Мы любім Расію Пушкіна, але мы не любім, што стала з Расіяй пры бальшавіках, працягваў Бумблаўскас: калгасы, камуналкі, што не стала праваў дзяржавы. Мы гэтага не любім і лічым, што мяжа павінна быць дакладна акрэслена, а не так, каб Расія вырашала за іншыя нацыі і дзяржавы.

Андрэй Казакевіч ад паэтычнай рыторыкі вярнуў размову да пытання ЕС. Адказваючы на закід Аляксея Мілера, адзначыў: праваў еўрапейскай палітыкі мяккай сілы, з аднаго боку, у тым, што ЕС не можа прапанаваць сяброўскім краінам далучэнне. Але геапалітычнай альтэрнатывы ўсё адно няма!

Што, Украіне далучыцца да Мытнага саюза з Расіяй? Вядома, Расія можа прапанаваць — але і толькі.

### Пытанні з аўдыторыі

Пасля другога кола выступаў свае пытанні экспертам маглі задаць слухачы. «Ці не дапускаеце вы, што Расія можа быць адначасова неліберальнай і пры гэтым еўрапейскай?» — запытаўся Альфрэдаса Бумблаўскаса прадстаўнік прапуцінскага сайта «Номас». Не, без ліберальных свабод і дбання пра правы чалавека Еўропы няма. «Мы павінны быць рабамі закона, каб быць свабоднымі», — працытаваў Бумблаўскас Льва Сапегу.

Найбольш пытанняў было да Аляксея Мілера. Ці правільна казаць пра сучаснасць у тэрміналогіі халоднай вайны? Як давяраць Расіі, калі ў яе няма сяброў, акрамя Кітая? І, нарэшце, гаворка ў прамовах Мілера ішла пра Расію ці пра рэжым Пуціна?

У аснове многіх сучасных крызісных з'яў ляжыць непаразуменне наконт вынікаў халоднай вайны, адказаў Мілер. У Маскве лічаць, што Расія выйшла з вайны, не прайграўшы, а на Захадзе думаюць іначай.

— Калі на Захадзе ўломвалі Гарбачова на нешта, то размаўлялі з ім на роўных. А калі ўжо ўламалі, то сталі казаць «мы перамаглі», — дадаў Касьянаў.

Што да пытання даверу, то расійскі даследчык выказаўся так:

— За 25 гадоў колькі ў Расіі было магчымасцяў адняць Крым! Колькі было магчымасцяў «замуціць» сепаратысцкую гісторыю ў Беларусі! Але Расія паводзіла сябе дастаткова прыстойна.

— Раней Расія не магла павесці сябе непрыстойна, — адказвае Касьянаў, — бо была занятая, найперш войнамі ў Чачні.

На пытанне пра размежаванне паняццяў «Расія» і «аўтарытарызм Пуціна» Мілер адзначыў: мы знаходзімся ў палоне думкі, што ёсць «добрая» Расія і «кепская», і што «добрая» некалі пераможа кепскую. «Я са шкадаваннем вымушаны сказаць: не пераможа».

На думку Аляксея Мілера, у паводзінах Расіі часткова вінаваты і Захад, які ўвёў санкцыі пасля ўварвання ў Крым:

— У 2012 годзе да ўлады прыходзіць слабы непапулярны Пуцін. Ён едзе ў Крэмль па пустым горадзе. Калі пачынаюцца ўсе гэтыя падзеі, Захад, замест таго, каб пакінуць Пуціна, перад якім сур'ёзная праблема... У яго ёсць пакт з грамадствам, які перастае працаваць: пакт заснаваны на тым, што вы седзіце і маўчыце, але вашыя заробкі ўвесь час растуць. У 2012-м годзе было зразумела, што будзе крызіс. Пакіньце Пуціна разбірацца з насельніцтвам і тлумачыць яму, адкуль гэты крызіс. Замест гэтага Пуціну далі магчымасць патлумачыць: «Крызіс — інтрыгі Захаду, і мы ўсе павінны згуртавацца, каб абараніць свой гонар». Дзякуй вам вялікі, вы вельмі падтрымалі расійскую дэмакратыю!

Цяпер расійскі народ — самы шчаслівы за ўсе перыяды сваёй гісторыі. Расія цяпер звальваецца ў ролю звыклую і зручную. Расія, якая 400 гадоў не губляла суверэнітэту і цягам 300 гадоў пашыралася па 50 квадратных міль за дзень, скончыў прамову Мілер.

— No comment. А Крым туды ўваходзіць? — узяў мікрафон Георгій Касьянаў.

— Калі Аляксей Мілер кажа, што Расія цудоўная і стабільная, варта сказаць, колькі назапашалася яе эканамічная падушка, — пачаў ён. — Што да Украіны, то Пуцін, безумоўна, здзейсніў злачынства, — працягвае выступовец [Аляксей Мілер ківае], — але і іншы бок мае віну [Мілер узмоцнена ківае]. — Перастань хітаць галавой, мяне раздражняе, што ты са мной згаджаешся! — кажа Касьянаў, усе смяюцца. — Тут няма чорна-белага, чорнабелае ёсць толькі ў адным: парушана міжнароднае права, адабраная тэрыторыя суверэннай дзяржавы.

# Стагоддзе жанчын

## Гісторыя Беларусі. Частка XXXVII.

Піша **Алег Дзярновіч**.

### Пячаткі княгіняў

Апісваючы падарожжа Еўфрасінні Полацкай у Ерусалім, мы бачылі, што полацкая ігумення мела перад сабой не толькі выключна рэлігійныя мэты. Яна сустракалася са сваім сваяком, візантыйскім імператарам, і відавочна выконвала яго даручэнні. Гэтае назіранне правакуе нас вярнуцца да дзвюх дыскусій — пра статус жанчын у Сярэднявеччы і пра грамадскую ролю жаночай часткі полацкай княскай дынастыі ў XII ст.

Еўфрасіння Полацкая ў сярэдзіне XII ст была ўдзельніцаю вялікіх гістарычных падзей і амаль паўстагоддзя істотна ўплывала на палітыку Полацка. Не толькі ў яе родным горадзе, але і ў іншых цэнтрах Усходняй Еўропы маюцца сляды яе дзейнасці.

На Рурыкавым гарадзішчы Ноўгарада ў 1968 была выяўлена вiслая пячатка (була) з жаночай выявай. Такія пячаткі прывешваліся да дакументаў на матузках, а не адціскаліся на паперы ці пергаміне. Практыка выкарыстання вiслых пячатак была запазычаная з Візантыі ў канцы X ст., імі замацоўвалі найважнейшыя дакументы. Гэтыя пячаткі былі металічнымі: найчасцей свінцовымі, найрадзей — залатымі.

Пячатка Еўфрасінні была адціснутая на свінцовым коле дыяметрам да 20 мм. Выдатная па мастацкім выкананні і захаванасці, яна ўтрымлівае на адным баку выяву Св. Еўфрасінні з пазначэннем яе імя кругавой легендай: «Госпадзе, дапамажы рабе сваёй Еўфрасінняй называнай». На другім баку — шматфігурная кампазіцыя Перамянення Гасподняга з рэшткамі грэцкага надпісу.

Галоўнай прыкметай для вызначэння прыналежнасці пячаткі паслужыў надпіс: дапамога Божая заклікаецца не проста на «рабу божыю Еўфрасінню», а на «рабу божыю Еўфрасінняй называную», што можа сведчыць пра прыналежнасць булы манахіні. Бо сама Еўфрасіння мела свецкае імя Прадслава, але стала нам вядомай менавіта пад імем, прынятым пасля пострыгу. Такім чынам, пячатка Еўфрасінні была адзіным выпадкам у сфрагістыцы XI—XIV ст. Усходняй Еўропы, якая не ведала манастырскіх ці манаскіх булаў. У сувязі з гэтым расійскі археолаг Валянцін Янін ставіў пытанне: ці не захоўвала Еўфрасіння пасля прыняцця схімы таксама і свецкую ўладу?

Прыгоды з пячаткай Еўфрасінні на гэтым не скончаюцца. У 2015 падчас раскопак каля муроў Спаскай царквы ў полацкім Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыры была выяўлена яшчэ адна вiслая пячатка XII ст. з надпісам «Госпадзе, памажы рабе сваёй Афрасініі». У гэтым надпісе важна тое, што форма напісання

Пячатка Еўфрасінні Полацкай пасля рэстаўрацыі (знаходка 2015)



Галоўны бок пячаткі з выявай Хрыста.



Адварот пячаткі з надпісам «Госппадзе, памазі рабе сваёй Афрасініі».

імя Еўфрасінні («Афрасініі») супадае з напісаннем на бакавых тарцах знакамітага Крыжа Еўфрасінні Полацкай.

З-за розначатання імёнаў, дапушчальнага, дарэчы, у Сярэднявеччы, частка даследчыкаў паставіла пад сумнеў прыналежнасць наўгародскай знаходкі полацкай князёўне-ігуменні. Паводле версіі расійскага гісторыка Аляксандра Маёрава, знойдзеная ў Ноўгарадзе пячатка магла належаць Еўфрасінні Галіцкай — маці князя Галіцка-Валынскага і караля Русі Данілы Рамановіча. У Галіцка-Валынскім летапісе яна прыгадваецца як «княгіня Раманава» — паводле імя мужа, князя Рамана Мсціславіча. У 1219 пасля дасягнення сынамі паўналецця княгіня, магчыма, пад прымусам баяраў, вымушаная была сысці ў манастыр, хоць і надалей брала актыўны ўдзел у палітычным жыцці. У прыватнасці, яна падтрымала прыняццё яе сынам Данілам Рамановічам каралеўскай кароны ад Папы. Гісторыкі разглядаюць два магчымыя імені княгіні ў манастве — Алена ці Ганна. Прыгаданы ўжо Аляксандр Маёраў па выніках супастаўлення візантыйскіх крыніц даводзіць, што Ганна мела свецкае імя Еўфрасіння ды была дачкой імператара Ісака II Анёла і Ірыны Палеалог. Трывалай глебы гэтых версій у крыніцах няма.

Жыла ў XII ст. і яшчэ адна Еўфрасіння, вядомая нам паводле імя свайго бацькі галіцкага князя Яраслава Уладзіміравіча Асмамысла. Гэта тая самая Яраслаўна — адзін з цэнтральных персанажаў «Слова пра паход Ігараў», жонка ноўгарад-северскага князя Ігара Святаславіча. «Плач Яраслаўны», якім пачынаецца трэцяя частка «Слова», лічыцца адным з самых паэтычных фрагментаў гэтага літаратурнага помніка, а сама Еўфрасіння Яраслаўна лічыцца сімвалам вернасці жонкі свайму мужу.



Пячатка Георгія і Сафіі, бацькоў Еўфрасінні Полацкай.

На гэтым княская жаночая сфрагістыка Полацка не сканчаецца. У пачатку 1960-х у Ноўгарадзе, а затым і ў латвійскім Кокнесе — старажытным полацкім фарпосце Кукейносе — былі знойдзеныя свінцовыя булы сярэдзіны XII ст. з выявай святых Сафіі і Георгія. Крыж Еўфрасінні Полацкай, апроч выявы св. Еўфрасінні, таксама мае выявы святых Георгія і Сафіі. Бацькам Еўфрасінні Полацкай быў князь Святаслаў Васільевіч; «Жыціе» св. Еўфрасінні называе яго яшчэ Святаславам Георгіем. Такім чынам, мяркуецца, што выява св. Сафіі на тым жа крыжы павінна ўвасабляць хрысціянскае імя маці Еўфрасінні. Таму Сафіі, жонцы князя Святаслава Георгія, і прыпісваецца выява на буле.

### Ці існаваў «полацкі матрыярхат»?

Такім чынам, усе княскія пячаткі Полацка XII ст. належаць ці маюць дачыненне да жанчын. Валянцін Янін называе гэта ўражваючым фактам, які можна растлумачыць толькі адным спосабам.

Пасля разгрому Полацка кіеўскім князем Мсціславам Уладзіміравічам у 1129 у Візантыю былі высланыя амаль усе мужчынскія прадстаўнікі Полацкага княскага дому. І хоць паступова князі і княжычы пачынаюць вяртацца, падзеі 1129 на заўважны тэрмін усталявалі новы статус княскай улады ў Полацку альбо прынамсі, новы статус замяшчэння ў ім княскага стала.

Валянцін Янін лічыў гэта ўнікальнай палітычнай з'явай, якой ён даў назву «полацкі матрыярхат». Паводле гэтай канцэпцыі, жонкі полацкіх князёў, высланых у Візантыю, у 1130—1150-я замяшчалі ў палітычным жыцці сваіх мужоў.

Усё ж па-за межамі гэтай канцэпцыі застаецца той факт, што ў 1132 Полацк пазбавіўся ўлады кіеўскага стаўленіка Святаполка і абраў князем роднага брата Еўфрасінні Васілька Святаславіча. Пасля палачане адмовілі ў даверы Рагвалоду-Давыду, а ў 1158 г. зноў захацелі бачыць яго на пасадзе. Усобіцы адбываліся таксама ў 1162 г. і ў 1167 г. вакол Менска, Заслаўя і Літвы. У гэтай сувязі аўтар «Жыція» Еўфрасінні Полацкай падкрэслівае, што князёўна-ігумення не хацела бачыць ворагамі «ні князя з князем, ні баярына з баярынам, ні служаніна са служанінам — але ўсіх хацела мець як адну душу».

Цяжка рэканструяваць маштабы і механізмы палітычнай улады Еўфрасінні і яе маці Сафіі. Але мы можам сцвердзіць экстраардынарны ўплыў жанчын Полацкага княскага дому не толькі на ўзаемаадносіны ўнутры роду, але таксама на культурнае развіццё і палітычныя працэсы ў Полацкай зямлі.

### Статус жанчыны ў Сярэднявеччы

Сярэднявечная культура стала важным этапам у фармаванні сучасных уяўленняў пра жанчыну. Менавіта ў Сярэднявеччы для жанчыны была распрацаваная найбольш разгорнутая і аргументаваная канцэпцыя недасканаласці. Кансерватыўнае прачытанне хрысціянскіх тэкстаў стварала ідэалагічную базу для такой патрыярхальнай традыцыі.

Калі казаць пра Стары Запавет, велізарны ўплыў на канцэпцыю жаночай прыроды мелі два эпізоды: стварэнне чалавека і грэхападзенне. Каб давесці, што жанчына з'яўляецца недасканалай у інтэлектуальным, фізічным і маральным аспектах, сярэднявечныя тэолагі прыводзілі два доказы: 1) жанчына была створана Богам не адначасова з мужчынам, а пасля яго, з яго ж рабра; 2) мізагіны — ненавіснікі жанчын падкрэслівалі, што ў аповедзе пра стварэнне чалавека не прыгадваецца, каб Бог удыхнуў у Еву жывую душу. Фактычна, гэта вяло да адмаўлення чалавечай прыроды жанчыны.

Але яшчэ ў разгар схаластычных дыскусій аб прыродзе Хрыста Ева была «рэабілітаваная». Хрыстос, які быў сынам Госпада і Панны Марыі, жанчыны, атрымаў богачалавечую прыроду. І гэта адкрывала шлях да апалогіі жанчыны, а Божая Маці стала сімвалізаваць дабрадзейнасці жанчыны: памяркоўнасць, замкнёнасць, сарамлівасць, здаровы розум, стараннасць, чыстасць, паслухмянасць, пакору, веру. Такім чынам, з сярэднявечнай хрысціянскай культуры выйшлі

два жаночыя вобразы-антыподы: Ева, вінаватая ў грэхападзенні, і Марыя, маці Хрыста.

Для жанчын высокіх сацыяльных станаў фактычна адзінай і самай прадукцыйнай сферай дзейнасці была сям'я. Павышэнне статусу жанчыны ў Еўропе адбывалася на працягу XI—XII ст. і звязанае было з умацаваннем сеньёрыяльнай сістэмы, калі жанчыне ўсё часцей перадаваліся правы распараджэння родавай маёмасцю. А ўрачысты царкоўны шлюб дапамог сацыялізацыі асноўных ролевых функцый жанчыны. Культ Панны Марыі і сакрамант шлюбу сталі відам аховы для жанчын.

У феномене ж дзейнасці Еўфрасінні Полацкай мы бачым спалучэнне дзвюх функцый — родавай рэпрэзентацыі і манаства. Спецыфічныя ўмовы XII ст. — палітычная дэзынтэграцыя і, адначасова, культурны росквіт — забяспечылі Еўфрасінні магчымасць і легітымнасць палітычнага ўплыву ў патрыярхальным грамадстве.

## Легенда пра Святохну

Але Еўфрасінняю Полацкай лік выбітных полацкіх жанчын XII ст. не сканчаецца. Легенда даносіць да нас звесткі пра драматычныя падзеі ў Полацку пры канцы гэтага стагоддзя. Гаворка вядзецца пра выпіскі, зробленыя расійскім гістарыёграфам XVIII ст. Васілём Тацішчавым (1686—1750) у яго «Гісторыі Расійскай» нібыта з Полацкага летапісу. Мы можам толькі гіпатэтычна дапускаць існаванне падобнага летапіснага помніка, які нібыта загінуў падчас пажару ў Маскве 1812.



**Святавіт — ідал боства ў храме Аркона (паводле апісання Саксона Граматыка)**

Тацішчаў апісваў часы кіравання полацкага князя Барыса Давыдавіча, які другім шлюбам ажаніўся са Святохнай, дачкой паморскага князя Казіміра. Паводле расійскага гістарыёграфа (і Полацкага летапісу) Святохна была жанчынай прыгожай і хітрай. Фармальна прыняўшы праваслаўе, яна не адпусціла ад сябе лацінскага святара і заставалася вернай веры «папежскай». А са Святохнаю ў Полацк прыйшло таксама шмат «знатных і подлых» памаранаў.

У гэтым шлюбе ў полацкай княскай сям'і нарадзіўся сын Уладзімір, якога Святохна называла Войцехам. А Барыс Давыдавіч ад папярэдняга шлюбу меў сыноў Васільку і Вячку. Паводле Тацішчава, Святохна інтрыгавала супраць пасынкаў, жадаючы расчысціць шлях да княскага пасаду свайму сыну. У той жа час маладыя княжычы былі папулярнымі сярод полацкага люду. Каб пазбегнуць эскалацыі, Васілька і Вячка самі папрасіліся ў бацькі адпусціць іх у Дзвінскую воласць. Барыс з неахвотай даў сынам княжанні. Святохна ж, карыстаючыся адсутнасцю пасынкаў у Полацку, пачала прыгнятаць іх прыхільнікаў і вылучаць на важныя пасады сваіх людзей, у тым ліку памаранаў.

Палачане былі незадаволеныя і патрабавалі выгнання памаранаў і вяртання старэйшых Барысавічаў у Полацк. У гэтай сітуацыі Святохна ад імя сваіх галоўных праціўнікаў — тысяцкага Сымона, пасадніка Воіна і ключніка Дабрыні — сфабрыкавала ліст да Васількі і Вячкі, у якім прапаноўвалася пазбавіць Барыса княскага пасаду, а саму Святохну і Уладзіміра-Войцеха пакараць смерцю. Ліст быў перададзены легкавернаму Барысу Давыдавічу. Абылганыя баяры кляліся ў невінаватасці, але прыхільнікі Святохны забілі іх.

Усё ж Васілька Барысавіч знайшоў спосаб выкрыць паклёп мачахі. І ў дзень св. Спаса (1 ці 6 жніўня) палачане па сігнале вечавога звана схапілі Святохну, якая «замкнулася ў істопцы», узялі яе пад варту, а ўсіх памаран пабілі або выгналі, парабаваўшы іх дамы. Не зрабіўшы зла князю Барысу, палачане паслалі ў Дзвінскую вобласць па Васільку. На гэтым аповед Тацішчава сканчаецца.

Легенда пра Святохну выклікала спрэчкі яшчэ ў XIX ст. У 1850-я расійскі гісторык Лыжын выказаў меркаванне, што гэта не пераказ гістарычных паведамленняў, а палітычны памфлет супраць нямецкага засілля пры расійскім двары ў часы імператрыцы Ганны Іаанаўны і яе фаварыта Эрнста Ёгана Бірона.

Аўтары другой паловы XVIII ст. выяўлялі Бірона злым геніем Расіі. Яго вінавацілі ў панаванні замежнікаў, жорсткасці і пакараннях, раскраданні дзяржаўнага скарбу. Расіяй сапраўды кіравалі ў значнай ступені замежнікі, але яны былі вылучэнцамі Пятра I і непрымірымымі ворагамі Бірона. Праўда, Бірон быў невысокага меркавання пра расіянаў і не хаваў гэтага. У той жа час ён імкнуўся не раздражняць новых суайчыннікаў непавагаю да іх звычаяў. Палітычных пераследаў у часы царавання Ганны Іаанаўны было сапраўды шмат, але не Бірон быў у іх зацікаўлены. Палітычны тэрор адбываўся паводле жадання імператрыцы і ў інтарэсах асобаў, якія забяспечвалі яе неабмежаваную ўладу. І хоць «чорная легенда» Бірона пачала складвацца яшчэ пры яго жыцці, але ўсе злоўжыванні ўладай пры Ганне Іаанаўне сталі звязваць з засіллем немцаў пры двары ўжо патрыятычныя прадстаўнікі расійскага грамадства XIX ст., якія і вынайшлі гэты тэрмін — «біронаўшчына». Тацішчаў жа быў сучаснікам бурлівых падзеяў сярэдзіны XVIII ст. Ці спрацоўвае ў такім выпадку версія пра антыбіронаўскі памфлет? Няма перакаўнаўчых аргументаў. А нават палітычнае выкарыстанне гістарычных сюжэтаў не супярэчыць наяўнасці пэўнай базы крыніцаў для іх.

Ужо ў канцы XX ст. беларускі гісторык Аляксей Сапуноў бачыў у аснове легенды пра Святохну прыгодную для выкарыстання гістарычную крыніцу, якая адлюстроўвае рэальнае жыццё Полацка пачатку XIII ст. Ён першы звярнуў увагу, што многія персанажы легенды невядомыя рускім крыніцам, але фігуруюць у «Хроніцы Лівоніі» Генрыха Латвійскага. Гэта князі полацкіх фарпостаў (ці васальных латгальскіх княстваў — «Дзвінскай воласці») Вячка Кукенойскі і Усевалад (Васілька?) Герцыкскі; полацкі князь пачатку XIII ст. Уладзімір.



**Расійскі архітэктар Пятро Яропкін (1698—1740), уладальнік меркаванага спісу Полацкага летапісу (гравюра Георгія Грачова).**

Іншыя даследчыкі даводзяць, што Тацішчаў не выкарыстоўваў звестак з «Хронікі Лівоніі», першае выданне якой выйшла ў 1740. Гэты год прынцыповы. 27 чэрвеня (8 ліпеня) 1740 у Расіі быў пакараны смерцю архітэктар і вяльможа Пётр Яропкін. Паводле яго праекту была ўзведзеная адна з забавак імператрыцы Ганны, «Ледзяны дом», які растаяў у красавіку 1740 г. Яропкін уваходзіў у апазіцыю да палітыкі Ганны Іаанаўны і як змоўшчык быў пазбаўлены галавы разам са сваімі патронамі з найвышэйшай эліты на чале з кабінет-міністрам Арцеміем Валынскім. Тацішчаў адзначаў, што «Полацкім летапісам» ён карыстаўся з «летапісу Яропкіна», які «папаўняў [яго] ў Полацку; бо ў ім шмат пра полацкіх, віцебскіх і іншых літоўскіх князёў пісана». Расійскі гісторык Лыжын лічыў Яропкіна і аўтарам антыбіранаўскага памфлета. Але Яропкін, тым больш у вязніцы і на пласе, не мог убачыць франкфурцка-лейпцыгскае выданне Генрыха Латвійскага.

У Тацішчава ж ёсць праблема з храналогіяй — ён пазначае пачатак гісторыі 1217-м. Хоць цяпер княжанне пляменніка Еўфрасінні Полацкай Барыса Давыдавіча датуюць 1180—1186 гадамі. Польскія генеолагі, у сваю чаргу, знаходзяць меркаванага бацьку Святохны — ім мог быць Казімір I (1138—1180), князь Паморскі, Шчэцінскі і Дыміньскі, заваёўнік апошняй цвердзі балтыйскіх славянаў-паганцаў — выспы Руген (сёння нямецкая Пярэдняя Памеранія). У 1186 Казімір Дыміньскі разам з братам Багуславам захапіў і разрабаваў легендарныя скарбы храма Святавіта ў Арконе на Ругене. Пасля заваявання жыхары Ругена былі хрысціянізаваныя. Калі Святохна сапраўды была дачкой Казіміра I, робіцца зразумелым, чаму для яе пытанне каталіцкай веры было такім важным — гэта вынікала з родавай легітымацыі дынастыі паморскіх князёў.

Падсумуем: пры ўсіх супярэчнасцях легенды пра Святохну багата што ў ёй мае адпаведнікі ў іншых крыніцах. Зразумелым выглядае і палітыка-культурны кантэкст легенды. Адзначым толькі, што звесткі з крыніцы маглі прайсці шлях трансфармацыі, пакуль трапілі ў кампендыум Тацішчава. Таму ўсе падзеі і дэталі легенды не варта ўспрымаць даслоўна. Расійскае маралізатарства першай паловы XVIII ст. таксама магло паўплываць на канчатковую версію падання.

У любым выпадку полацкае XII ст. адзначанае моцным адбіткам жаночай індывідуальнасці, рэдкім для Сярэднявечча. Полацкія жанчыны парушылі «гендарны баланс» патрыярхальнага грамадства і паспрабавалі праводзіць уласную палітыку і культурную стратэгію.

Многіх персанажаў гэтай гісторыі з канца XII ст. мы сустрэнем у далейшых выпусках «Гісторыі Беларусі». Гэта ўжо будуць сюжэты пра цывілізацыйнае пранікненне немцаў ва Усходнюю Балтыю ў пачатку XIII стагоддзя і няпэўнасць Полацка.

# «Мы гэтага не казалі!» — французы злавілі «Расію-24» на абсалютнай хлусні

Працяг са старонкі 3.

Тым не менш каманда ў асноўным здымала маніфестацыі незадаволеных новым законам аб працы і інтэрв'юіравала маніфестантаў, якія адказвалі менавіта ў гэтым кантэксце, нічога не кажучы ні пра Еўропу, ні пра «еўраскептыцызм».

Калі журналісты Le Petit Journal паказалі героям сюжэту пераклад іх уласных слоў, тыя практычна не пабачылі сказанага імі.

«Гэта жахліва, агідна і абразліва, што мае словы пераклалі такім чынам. Гэта нават не памылковы пераклад — гэтыя словы цалкам выдуманыя», — кажа адна з апытаных, якая пасля таго, як яе словы падверглі «перакладу», стала «сцвярджаць», што баіцца мігрантаў. «Не, я зусім не баюся мігрантаў. Я сказала ім, што адчуваю сябе ў бяспецы, і што пытанне мігрантаў для мяне ніяк не звязана з пачуццём небяспекі, і што я за тое, каб мы прымалі людзей, якія бягуць з краіны, дзе ідзе вайна», — каментуе яна перадачу Дзмітрыя Кісялёва.

«Вы несумленны чалавек, мяне выставілі расісткай», — звяртаецца сталая жанчына да расійскага журналіста, прагледзеўшы сваё інтэрв'ю.

Інтэрв'ю гэтай пенсіянеркі, былой супрацоўніцы мэрыі Нуазі-Лё-Сэк, з дванаццаці хвілін сюжэту займае амаль шэсць. Арыгінальны тэкст добра чуваць пад перакладам, пажылая жанчына спрабуе растлумачыць журналісту палітыка-эканамічную сітуацыю, якая склалася ў небагатым прыгарадзе Парыжа.

Антон Лядаў, які працуе для праграмы «Весті», на прыблізнай французскай мове накіроўвае размову ў патрэбнае яму рэчышча: «Колькі ў вас тут мячэцяў?», «Вы ж павінны плаціць за гэтых людзей вашымі падаткамі?», і настойвае, каб яго суразмоўніца ацаніла колькасць мігрантаў, якія пражываюць у горадзе.

У адказ у сюжэце праграмы пажылая жанчына «кажа»: «Мяне накіравалі на пенсію, і ў гэты ж час нанялі траіх мігрантаў, з Алжыра, Турцыі...». Пасля ўбачанага расійскага сюжэту, пенсіянерка была здзіўленая. «Гэта хлусня і вельмі няправільная інтэрпрэтацыя маіх словаў», — патлумачыла яна журналісту *Le Petit Journal*. У сюжэце, які можна знайсці на сайце «Россіі-24», гэтых слоў ужо няма.

У той частцы, дзе журналіст пытаецца пра мігрантаў, яна згадвае і выхадцаў з Магрыба, і ўраджэнцаў Партугаліі і Іспаніі. *Le Petit Journal* сцвярджае, што пасля іх публікацыі «Россія-24» спачатку зусім зняла сюжэт з сайта, а затым паставіла зноў, але ўжо з выпраўленнямі.

Яшчэ ў адным эпізодзе ідзе гаворка пра будынак ліцэя ў 19-й акрузе Парыжа, які, па словах журналіста, занялі «мігранты», так што ўладам давялося выселіць адтуль школу. Мэр 19-й акругі, да якога звярнуўся *Le Petit Journal*, паведаміў, што будынак «пуставаў з 2011 года, гэта значыць? задоўга да міграцыйнага крызісу».

Акрамя «звычайных французаў», для сюжэту былі праінтэрв'юіраваны два палітыкі. Прагледзеўшы «пераклад» сваіх слоў, былы міністр Бруно Лё Мэр выказаў пажаданне, каб расейскія тэлеканалы не выразалі яго слоў і перадавалі іх дакладна. Паказанае «не падобна да таго, што я сказаў», — заявіў ён журналістам *Le Petit Journal*. У перакладзе асаблівы акцэнт робіцца на фразе: «Мы павінны больш супрацоўнічаць з Расеяй». Перад з'яўленнем яшчэ аднаго палітыка — Жана-Мары Ле Пена — вядучы кажа: «Ужо цяпер у гэтай выснове няма ніякіх сумневаў».

І заключае: «Пасыл ясны. З-за Еўропы ў Францыі людзі ламаюць усё запар на вуліцах, дэмакратыі больш няма, мігранты ўсіх трымаюць у страху, займаюць французскія працоўныя месцы і французскія школы. Застаецца адно выйсце — гэта Расея».




У Мінску з'явілася яшчэ адно этнічнае графіці. На вуліцы Рабкораўская, 13 іспанскі мастак Deih намаляваў паганскага бога Ярылу такім, якім ён яго бачыць.




21 мая ў Мінску прайшла Ноч музеяў. Стрыт-арт, усходнія медытацыі, музыка, гульні, тэатральныя выступы — усё гэта можна было пабачыць у Нацыянальным мастацкім.
А ў музеі Янкі Купалы сотні людзей сабраліся на чытанні ў гонар стагадовага юбілею вянчання Янкі Купалы і Уладзіславы Станкевіч.




От так падтрымліваў каманду свайго роднага горада мужчына з Жодзіна. І дапамагло! 21 мая ў фінале Кубка Беларусі па футболе «Тарпеда-БелАЗ» перамагло БАТЭ па пенальці з лікам 3:2.




Паставілі фота Купалы, а падпісалі Коласам — такі білборд з’явіўся ў Гродне да Фестывалю нацыянальных культур. Калі паэт Міхась Скобла змясціў гэты факт у фэйсбуку, плакат хуценька знялі ўначы.



Расійскі неанацыст Вячаслаў Дацык быў затрыманы 18 мая ў Пецярбургу за напад на буцік-гатэль «Графт». У гатэлі месціўся падпольны бардэль, сцвярджае Дацык. Таму ён вывеў прастытутак голымі і так завёў іх у міліцыю. На пасяджэнні суда, дзе вырашалася пытанне аб меры стрымання яму, ён запатрабаваў сабе перакладчыка з беларускай мовы. Рэч у тым, што ён беларус па каранях, хоць і грамадзянін Расіі. Суд яму ў перакладчыку адмовіў і прыняў рашэнне арыштаваць Дацыка на два месяцы.




Чэмпіёнам свету па хакеі стала зборная Канады. Фінляндыя — другая, а трэцяе месца заняла Расія. Беларусы — на «пачэсным» 12-м месцы.



## Анекдоты і жарты

* * *

Пасля пройгрышу расійскіх хакеістаў фінам на канале «Расія» паказалі расследаванні «Сакрэт фінскай намагнічанай шайбы» і «Радыёкіраваныя вароты расійскай зборнай».

* * *

Рэзюмэ. Лёгка сачыняю, выдатна канстатую факты, віртуозна выкручваюся. Шукаю працу ва ўрадзе.

* * *

Задоўга да Канскага фестывалю ў Вялікім Княстве Літоўскім праводзіўся конскі фестываль.

* * *

Вятры пераменаў у тупіку не дзьмуць.

* * *

Рабіновіч скардзіцца суседу:
— Царпець не магу аматараў хлусні! Таму з задавальненнем гляджу па тэлевізары выступленні нашага... Гэта ж іншая справа, калі табе хлусіць прафесіянал!

* * *

Кашу ў галаве часам трэба памешваць, каб не прыгарала.

## Шаноўныя чытачы! Наступны нумар «Нашай Нівы» выйдзе 8 чэрвеня. Добрага адпачынку!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Натуральная горкая вада Франца-Язэпа з Офэна**, каля Будапешта, як даведзена, мае найбольш распушчаючыхся і слабіцельных солей сярод усіх лекарскіх вод Сярэдняй Эўропы. Яе ўплыў найлепей паказваецца ўжо па прыняцці малой меры — паўшклянкі. Купляць можна ў аптэках і аптэкарскіх магазынах.

**«НН», №20—21, 1911 год**

**Берасце бароніць «Нашу Ніву».** «Барані «Нашу Ніву» — з такім заклікам звярнуліся ўдзельнікі флэш-мобу ў падтрымку апошняга цалкам беларускамоўнага незалежнага выдання. Каля 60 актывістаў руху «За Свабоду», расцягнуўшыся ў доўгі ланцуг на цэнтральным праспекце горада — імя Машэрава, чыталі «Нашу Ніву». Флэш-моб працягнуўся 20 хвілінаў і выклікаў жывое абмеркаванне ў людзей. Яны пыталіся пра сітуацыю з газетай, а таксама пра тое, як яе можна атрымліваць.

**Faith_less, «НН», 26 мая 2006**

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 24.05.2016.
Замова №1710.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 16020